
20 гадоў навучання... ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Новая дырэктар БДК ➔8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 39 (3202) Год LXII Беласток, 24 верасня 2017 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Мне падабаецца быць настаўніцай беларускай мовы!

**Ганна Кандрацюк: — Ты, як адна з нямногіх нашых настаўніц, заўсёды размаўляеш з вучнямі па-беларуску. У школе, на горадзе, у час розных паездак. Чаму гэта такое важнае?**

**Аліна Ваўранюк**: — Настаўніку беларускай мовы трэба працаваць больш сэрцам, чым галавою. Я цэлае жыццё падкрэсліваю, што быць настаўнікам мовы нацыянальнай меншасці гэта не тое самае, што настаўнікам усіх іншых разам узятых прадметаў. Думаю, няма нічога горшага, чым настаўнік, які гаворыць толькі на ўроку, або выказвае толькі некаторыя фразы па-беларуску, а калі крычыць, то крычыць ужо на польскай, бо так ён прывык. Усюды і заўсёды трэба размаўляць з вучнямі па-беларуску, гэта звычайная, натуральная справа.

**ГК: — У школьныя гады Ты размаўляла па-беларуску?**
**АВ:** — Не.

**ГК: — Як адбылася Твая перамена?**
**АВ**: — Я пайшла на працу ў бельскую „тройку” і шмат часу праводзіла з Марылькай Базылюк. Ну і стала мне сорамна, што ўсе мае сябры размаўляюць на беларускай мове, а я адна на польскай. Я здаўна ведала, што я не полька. Калі збіраліся мае бацькі і сям’я і яны пачыналі гасцяваць, то яны гаварылі па-свойму і спявалі беларускія песні. Потым, калі я перамагла сябе і стала да бацькоў гаварыць па-беларуску, то думаю, для іх гэта было вельмі дзіўнае. Мая бабуля да канца сваіх дзён звярталася да мяне па-беларуску, а да маёй сястры па-польску. Так што я свядома пачала карыстацца мовай у дарослым жыцці. І можа таму гэта так вельмі цаню. Іншая справа, мне вельмі падабаецца праца настаўніцы беларускай мовы.

**ГК: — У бельскай „тройцы”, як памятаю, Ты працавала настаўніцай пачатковага навучання.**
**АВ**: — Працавала ў малодшых класах I-III, але што цікавае, я там карысталася мовай не толькі ў час урокаў беларускай мовы, старалася гаварыць па-беларуску на тэхніцы, пластыцы, фізкультуры. Прыязджалі тады да мяне на ўрокі Лёнік Тарасэвіч, Эля Бэзюк, якая пад гітару вучыла беларускіх песень. Магчыма, гэта была такая *nadgorliwość neofity*, але так было. У 1997 годзе, калі дзве гадавія групы закончылі вучобу ў беларускім садку, бацькі вырашылі, што дзяцей трэба далей вучыць роднай мове. І яны якраз запрасілі мяне, каб вучыць іх дзяцей.



**ГК: — Дваццаць гадоў гэта такі перыяд, калі можам прыкмеціць вынікі дзейнасці. Што лічыш сваім найбольшым дасягненнем?**
**АВ**: — Гэта адукацыйны пакет для класаў I-III. Гэта сцэнарый заняткаў для першага класа. Гэта падручнікі: *Лемантар* і *Кругагод*. Гэта настольныя гульні, я іх апрацавала, а Міраслаў Здрайкоўскі мастацка аформіў. Гэта музычныя дыскі для класаў I-II-III. Калі гаварыць пра эмоцыі, іх адчуваю кожны год на „Басовішчы”. Там заўсёды бачу эфекты сваёй працы. Ці як еду на „Трыялогі” і бачу, што мае дзяўчаты працуюць там валанцёркамі. Думаю, беластоцкія выпускнікі гэта будучая беларуская эліта.

**ГК: — Разам з адкрыццём „Склепу з культурай” Ты стала яшчэ аніматаркай культуры. Вашы праекты як „Падляшскія хронікі” ці „25 АБ-БА Аркестр” знакаміта папоўнілі праграму Агульнапольскага фестывалю „Усход культуры”.**
**АВ**: — Адно з большых маіх дасягненняў гэта сцэнарый і інсцэніроўка спектакля „Ой даўно-даўно”. Першапачаткова мы спадзяваліся, што будзем ездзіць з гэтым спектаклем па школах, а пасля, калі сталі ездзіць па вёсачках, зразумелі, што найфайней выступаць якраз там, для нашых людзей...

**ГК: — У Машчоне-Панскай, Тымянцы ці Сынкаўцах Ваш спектакль быў пэўным дапаўненнем мастацкай прасторы. Вы выходзілі да людзей падобных на герояў „Падляшскіх хронік”.**
**АВ**: — Людзі вельмі жыва рэагавалі, перажывалі. Памятаю тыя эмоцыі, смех, але і слёзы. Думаю, гэта было вельмі важнае для ўдзельнікаў. Апрача таго яны стварылі вельмі моцную групу маладых, актыўных людзей. Яны па сённяшні дзень шчыра з сабою сябруюць. Калі разам цяпер нешта робяць, то і пасварацца, і паладзяцца. Здараюцца канфлікты. Пры арганізацыі „Басовішча” нялёгка абысціся без канфліктаў, але потым і так працуюць разам. Дзякуючы ім я таксама навучылася, што часам трэба забывацца пра тое дрэннае, думаць пра тое, што добрае. Дзякуючы гэтым выездам я пазнаёмілася са шмат якімі людзьмі на Беласточчыне.

Вядома, вялізны гонар, калі мы выступалі ў Варшаве ці ў Нью-Йорку. У Нью-Йорку выступалі ў царкве. Як пабачылі, што там сядзіць Зянон Пазьняк і будзе глядзець наш спектакль, ну, гэта былі вельмі вялікія нервы. А пасля ён выказаў сваё прызнанне, гаварыў як важная справа захаваць сваю мову і дыялекты. Я тады схавалася за заслонкай і проста плакала. Гэта былі вялізныя эмоцыі. І не справа ў тым, што гэта была Амерыка. Думаю, што гэтыя людзі, эмігранты, якія так многа перажылі, глядзелі гісторыі з Падляшша, слухалі, плакалі і спявалі разам з нашымі ўдзельнікамі. Думаю што кантакты з людзьмі важнейшыя, чым выступ на „Усходзе культуры”. Хаця не часта здараецца, што апрача фальклору там пакажуць нешта беларускае. Праект „25 гадоў АБ-БА Аркестр” прыдумаў Юрка Асеннік. Выбралі мы тыя песні, якія нам найбольш падабаліся і вырашылі, што музычным кіраўніком будзе Лявон Вольскі. З Ігарам Варашкевічам, Аляксандрам Памідоравым, з Вольскім мы былі знаёмы, ведалі Кшыся Сяськевіча, але выцягнуць яго з небыцця на сцэну было вельмі-вельмі цяжка. Падобна было з „Сенькам”. Ён смяяўся, што толькі тады выступіць на сцэне, калі Лявон Вольскі пераробіць яго шызафрэнію на рэгі. Для мяне цікава было патлумачыць дзецям словы песень. Напрыклад, у песні „Тры чарапахі”, што такое „камунальныя пахі”. Здаецца гэта банальна, але няпраўда, *гузік* банальны! Але калі прагучала такое на сцэне, то сэрца расце. Дзякуючы гэтай працы я перажыла файныя эмоцыі, якіх ніхто мне не забярэ.

Інтэрв’ю з Алінай Ваўранюк, настаўніцай беларускай мовы, аўтаркай падручнікаў, аніматаркай культуры, намесніцай старшыні аб’яднання АБ-БА.

**ГК: — Першыя гады Ты даязджала аўтобусам з Бельска ў Беласток. У Вас тады былі малыя дзеткі. Не баялася Ты такога выкліку?**
**АВ**: — Як цяпер пра гэта думаю, то здзіўляюся, што нікому тады не прыйшло ў галаву, што я трачу свае грошы на даезды. З грашыма ў нас заўсёды былі праблемы. Але я не думала, што гэта нейкая страта. Я страшэнна зайздросціла маім беластоцкім сябрам таго, што іх дзеці ў беларускім садку. Калі ў рэшце рэшт мы вырашылі, што пераедзем жыць у Беласток, зразу паслалі сваіх дзяцей у садок. Мяне вельмі цешыла, што наша Нінка з трох гадоў будзе хадзіць у садок. Аляксандр хадзіў адзін год. Так што спачатку я даязджала з Бельска ў Беласток, а потым наадварот. А яшчэ я тады працавала метадыстам пачатковага навучання. Гэта былі два страшэнна цяжкія гады, якраз уваходзіла рэформа адукацыі. На працягу тыдня я вяла тры-чатыры майстар-класы для настаўнікаў. Але было цікава, файна.

Ну, слухай, вучыць дачку Віктара Шведа, гэта было для мяне такое *воў*! Людзі ўжо пазабывалі, а гэта мы ў Беластоку вярнулі навучанне беларускай мове з першага класа.

**ГК: — Памятаеш першыя ўрокі ў Беластоку?**
**АВ**: — Ад пачатку я ведала, што гэта вялікая адказнасць. Я страшэнна перажывала, старалася, каб усё было добра. Тады на ўрокі прыходзілі таксама бацькі, многа спраў мы вырашалі разам...

**ГК: — На пачатку было шэсць вучняў.**
**АВ**: — Я ўсіх іх памятаю. Цяпер вельмі перажываю, бо Майка Більмін нарадзіла сына і тыдзень таму я сустракалася з яе Тымкам. А як першы раз пабачыла яго здымкі, то адчувала так, быццам гэта быў мой унук. Магда Карчэўская мае дачку, яшчэ яе не бачыла, бо яна жыве ў Швецыі. Ну, гэта такія файныя эмоцыі.

Разам з бацькамі мы зжыліся і пасябравалі. Яны ва ўсім давяралі мне, я ва ўсім давярала ім. Гэта засталося па сённяшні дзень, гэта відаць хоць бы на летніках, калі бацькі аддаюць на тыдзень малых дзяцей, і яны тыдзень, без мабільнікаў, разам са мной. Гэта давер і вялікая адказнасць. Але вяртаючыся ў гэты першы клас. Тады паўсталі такія ідэі, як *Калядны вечар* ці *Развітанне з восенню*. Я старалася рабіць як найбольш адкрытых урокаў, паказваць бацькам як працуем, што мы робім. Памятаю як хадзілі ў „Ніву” калядаваць з дзяцьмі. Ну, такога не забываецца. Хоць з таго часу ўжо прайшло дваццаць гадоў, здаецца быццам усё было ўчора.

працяг ☞ 11





# Вінаваты

Адвакат — асоба, прафесіяй якой з'яўляецца аказанне кваліфікаванай юрыдычнай дапамогі фізічным і юрыдычным асобам (арганізацыям), у тым ліку абарона іх інтарэсаў і правоў у судзе. А адвакатура як прафесія вядомая са старажытных часоў.

Так пра адваката і яго прафесійныя абавязкі гаворыць вікіпедыя. І сапраўды, прафесія адваката вядомая з часоў старадаўняга Рыма. Ну а адвакат у прынцыпе быў заўсёды. Кожны, хто нейкім чынам абараняў таго, каго судзілі, і быў адвакатам. З'яўленне адваката як прафесіі папросту стала падвышаць кваліфікацыю гэтага чалавека. Сталі з'яўляцца вядомыя адвакаты, якія абаранялі людзей лепш чым іншыя. Зразумела, што такія абаронцы былі больш запатрабаванымі, ну і адпаведна больш дарагімі. Кліент, ён жа заказчык, і быў галоўным ацэншчыкам працы адваката.

Здавалася б усё тут проста і нічога больш прыдумваць не трэба. І гэтая схема становіцца прывабнай там, дзе галоўным у судовым працэсе лічыцца пошук праўды. Там, дзе суд зацікаўлены ў рэальнай ацэнцы віны падсуднага, каб вынесці яму максімальна справядлівы прыгавор, або апраўдаць цалкам. Менавіта там, і той хто абараняе, і той хто абвінавачвае, на роўных спаборнічаюць у зале суда. І да самага канца невядома хто пераможа.

А вось там, дзе прыгавор вядомы яшчэ да таго, як пачаўся суд, прафесія адваката становіцца цалкам непатрэбнай. Мне як праваабаронцу прыходзілася прысутнічаць на мностве судовых працэсаў. Большасць гэта былі адміністратыўныя справы. І тым не менш, людзі, якія першы раз траплялі ў залу суда як абвінавачаныя, вельмі спадзяваліся на адваката. А вось тыя, хто ўжо быў раней знаёмы з сённяшнім беларускім правасуддзем, не лічылі патрэбным губляць на адваката час і грошы. Ну і сапраўды. У дзевяноста дзевяці адсотках выпадкаў я і мае калегі, зыходзячы са свайго ўласнага досведу, з дакладнасцю прадказвалі як будзе закончаны працэс і які будзе прыгавор. Нават мы ведалі прысуд яшчэ да пачатку судовага працэсу. У такой сітуацыі абсалютна лагічным здаецца пытанне: а навошта патрэбны суд увогуле? Няхай бы той міліцыянт, які схапіў актывіста на мітынгу ці пікеце і выносіў бы прысуд, раз гэты прысуд ужо вядомы. Зэканомілі б дзяржаўныя сродкі. Ну а прысутнасць адваката ў такой сітуацыі ўвогуле выглядае абсурднай.

Зразумела што размова ідзе пра стасункі ўлад з апазіцыйна настроенай часткай грамадства. Хоць у іншых выпадках, я думаю, сітуацыя выглядае вельмі падобна. Навошта мяняць схему, калі гэтая цалкам задавальняе ўладу. І калі можна папросту ігнараваць усе довады адваката, то навошта такі інстытут увогуле.

Але ж такі інстытут ёсць. Дык навошта ён патрэбны? Адказ на гэтае пытанне прыходзіць толькі адзін. Хіба адвакат у Беларусі патрэбны выключна для таго, каб мы хоць знешне нейкім чынам былі падобнымі на людзей. Маўляў, у нас, так як і ў іншых краінах, ёсць нават адвакаты.

І тут адвакат ужо набывае зусім іншае значэнне. Ён як інстытут існуе для падману, для таго, каб пыл пускаць у вочы іншым. Толькі вось у такой сітуацыі трэба, каб адвакаты былі цалкам ручнымі, поўнасцю залежнымі ад улады, кантраляваныя і кіраваныя ёю.

Таму ў Беларусі не кліент з'яўляецца галоўным ацэншчыкам працы адваката, а ўлада. Менавіта яна праз, прыкладам, міністэрства юстыцыі праводзіць праверку адвакатаў і прызначае пераатэстацыі. І кваліфікацыя адваката вызначаецца зусім не колькасцю выйграных спраў. А то не ўсе адвакаты ў Беларусі ведаюць сваё месца. Ёсць і такія, якія вельмі сур'ёзна ставяцца да сваёй місіі і спрабуюць рэальна абараняць сваіх кліентаў, нават калі тыя прадстаўнікі апазіцыі.

І вось ужо ідуць чарговыя і пазачарговыя пераатэстацыі. І вось ужо адмоўную атэстацыю атрымлівае вядомая адвакатка Мінскай гарадской калегіі адвакатаў Ганна Бахціна. І вось ужо ўсім ясна, што не яна апошняя.

І вось ужо Беларусь рэальна набліжаецца да таго моманту, які раней можна было ўбачыць толькі ў вельмі камедыйных фільмах, калі адвакат падымаўся і казаў пра падсуднага толькі адно слова: „Вінаваты!”.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Гэта праўда ці не?



Апакаліпсічную навіну прынёс мне сусед, гарачы слухач Радыё Марыя. Я сярод суседзяў маю і тых, хто не слухае Радыё Марыя. І гэта неабавязкова праваслаўныя. Дзесяць дзён таму сусед быў вельмі занепакоены. Штосьці круглявае, вялікае, небяспечнае і таямнічае прызямлілася ў Польшчы. Невядома, што і дзе, але ў Польшчы. Усе пра гэта ведаюць. І ўрад, і СМІ, і звычайныя людзі. Але баяцца казаць пра гэта. Гэта строга забаронена.

— Хто забараніў? Сусед не ведаў. І чаму, нягледзячы на забарону, ён кажа пра гэта? — А таму што мне ніхто не забараняў! А Радыё Марыя не хлусіць. Значыць, і Радыё Марыя ніхто не забароніць казаць праўду. Старэйшыя чытачы могуць успомніць чорную «Волгу». Для прыгадвання малодшым, «Волга» гэта від аўто савецкай вытворчасці, я пішу «від» у смелую аналогію, каб падкрэсліць розніцу паміж «Волгай» і сапраўдным аўтамабілем. Так менавіта, як гэта мае месца на эвалюцыйнай лесвіцы паміж малпай і чалавекам. Аналогія аналогіяй, а «чорная „Волга”» з'яўляецца міфатворчым фактам. У часы «камуны», кажуць, ездзіла яна па вёсках і гарадах, выкрадваючы выпадковых людзей, пераважна пасля наступлення цемры і хутчэй дзяцей, а не дарослых, і высмоктвала ўсю кроў з ахвяр, і высмактаныя з жыццёвых сокаў корпусы пакідала ў прыдарожных кустах. Але ж артэфакты гэтых злачынстваў ніколі не былі знойдзены. Замоўчваюць аб іх справаздачы тагачаснай міліцыі. Відавочцы гэтых падзей, калі такія людзі былі, па-ранейшаму маўчаць. Або, калі занадта шмат казалі, зніклі пры загадкавых абставінах, што, здаецца, блізкае да ісціны, паколькі «Волгі» былі ў флоце службы бяспекі, якія ахвотна хапала «ворагаў народа» з вуліцы. Ах, гэта былі дні! У любым выпадку, «чорная „Волга”», як «чорны воран» на вуліцах савецкіх гарадоў, паралізавала ўяўленне не толькі дарослых грамадзян ПНР. У дзяцінстве я, свядомы такой небяспекі, пакорліва вяртаўся дадому да вечара. На поўнае задавальненне маёй маці. Шкада, таму што ў пясочніцы так шмат цікавага здаралася, асабліва ў прыцемках. Змрочная гісторыя пра чорную «Волгу» сапсавала ўяўленне многіх людзей. Сёння можна сустрэць тых, хто гатовы пакласці галаву за сапраўднасць гэтай гісторыі. Гэтай і многіх насычаных змоўніцкай істэрыяй. Належыць да іх і радыёмарыйны слых пра непазнаны аб'ект — чорт ведае ці боскага ці сатанінскага паходжання — што прызямліўся ў Польшчы. Мой сусед дагэтуль ходзіць па вёсцы як апараны. Днём сочыць за чымсьці ў небе, або неспакойна азіраецца. А з прыходам змяркання знікае таямніча і нечакана ў сваёй хаце.

Аб новай змове, якая з'яўляецца вынікам міфатворчай істэрыкі, нядаўна абвясціў галоўны рэдактар «Польскай газеты» і «Польскай газеты штодзённай» Тамаш Сакевіч. Паводле яго слоў, Google, апаратар глабальнай сеткі інтэрнэту, верагодна наўмысна выдаляе крыжы з трохвымерных выяў касцёлаў. Тут звярніце ўвагу на слова «верагодна». Яно крыху ніжэй выплыве зноў, але ў іншым кантэксце. Так што выдаленне крыжоў на Google, паводле Сакевіча, больш не з'яўляецца верагоднай, але цалкам відавочнай праявай непрадуманай паліткарэктнасці, якая гнілля ў прынцыпе заходняя дэмакратыі даводзіць да яшчэ большага гніення. Яго пост у твітары, падмацаваны артыкулам з партала niezależna.pl, на якім асноўвае свае словы, выглядае наступным чынам: «Абсурднае вымярэнне палітычнай карэктнасці. Google выдаляе крыжы з вежаў касцёлаў? Інтэрнэт-карыстальнікі адзначылі, што з трохмерных візуалізацый касцёлаў на гугл-картах адсутнічаюць крыжы. Гігант тлумачыць, што здымкі, паводле якіх узнікаюць мадэлі, недастаткова падрабязныя...». Затое ў артыкуле партала niezależna.pl, які Сакевіч цытуе і нейкім чынам падмацоўвае сваім прозвішчам, яго аўтар, спасылаючыся на трывожныя сігналы з інтэрнэту, нават кажа, што крыжы на трохмерных гугл-картах адсутнічаюць. Пацвярджэнне гэтаму — касцёл св. Марыі ў Кракаве. Сваё адкрыццё аздобіў каментарыем: «Многія людзі кажуць, што гэта свядомае дзеянне Google, які ў барацьбе з хрысціянствам хоча стварыць альтэрнатыўную, свецкую рэальнасць». Верагоднасць інфармацыі, апублікаванай парталам niezależna.pl і цытаванай Сакевічам, вырашыў я асабіста праверыць, так як і рэдактары партала gazeta.pl. Як і яны, пасля навочнага агляду, з поўнай адказнасцю кажу, што Google са сваіх трохмерных здымкаў выявы крыжа на званіцы св. Марыі не сцёр. Пан Сакевіч і niezależna.pl культывуюць міфатворчасць ніякім чынам не хрысціянскую. А гэта ж Хрыстос вучыў не даваць ілжывых паказанняў. Праўда гэта ці не?

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Грыбны сезон

Тыдзень назад у гэтым месцы ўзгадваў я пра любімую справу маёй мамы — каралеўства кветак у прыхатнім агародчыку. Цяпер распавяду пра магічны свет грыбнога збірання, які для майго таты быў і надалей застаецца сапраўдным захапленнем. Узгадваю тут пра грыбы невыпадкова. Зараз у верасні маем іх сапраўдны ўраджай. Даўно не было такога масавага з'яўлення баравікоў у адзін момант. Такая кумуляцыя быццам у латарэі, толькі выйграных і шчаслівых тысячы, а не толькі адзінкі. Мокрае лета і вераснёўская цеплыня зрабілі свой падарунак аматарам грыбной справы. Людзі рынулі ў лес, каб адвесці душу і пачуць радасць ад бяскроўнай, паляўнічай справы. Так, так, не памыляюся. Збіранне грыбоў то такі суррагат мужчынскага першабытнага занятку. Выяўленчай формай паляўнічай справы ў руках грыбніка з'яўляецца менавіта нож. Сапраўдны грыбнік, ідучы ў лес, не бярэ абы-якога нажа. Не хапае ў руку нейкіх кухонных прылад жонкі. У яго ў кішэні мусіць ляжаць адмысловы, складанчык-сцізорык. Ручка павінна быць на шырыню далоні, а вострая частка — з цвёрдай сталі. Такое лязо, пра якое ніхто не скажа і не абсмяе, што тупое як срака. Або малое, што можна ім толькі мышэй харашаць. Такім сцізорыкам можна ў любым выпадку зрэзваць не толькі грыбы, але і без праблемы прыцяць галінку ці скроіць яду. Нож грыбніка, калі не носіць ён яго з сабою штодзень, спачывае заўсёды ў адмысловым месцы, чакаючы свайго гаспадара. Як дубальтоўка чакае прафесіянальнага паляўнічага.

Другім не менш важным выяўленнем сапраўднага грыбніка павінен быць кошык. І хай нават знойдзе ён толькі аднаго, ці пяць грыбоў, мусяць яны знайсці сабе месца ў годнай прасторы. Грыбы лёгка ломяцца, таму пакеты і торбы гэта здзек над іхняй прыгажосцю. Мусяць яны проста красавацца навідавоку, а не быць сціснутымі і падушанымі. Калі чалавек збірае грыбы ў кошык, то яны хутчэй трапляюць такому на вочы, а не тым другім з пакетамі. Калі мы ў дзяцінстве выпраўляліся з братамі па грыбы, то, зразумела, спаборнічалі, хто з нас найбольш назбірае баравікоў. Тады кожны з нас пад носам вымаўляў самую, простую замову «грыбчыкі, грыбчыкі ідзіце ў мой кошык». І бывала ішлі як зачараваныя ў нашы кошыкі. Было ўсё справядліва, розніцы паміж намі не былі найвялікшыя. Ну, зразумела, мы тады заўсёды прайгравалі з бацькам. Але ўжо будучы падлеткамі, здаралася часамі адному з нас чатырох братоў і перагнаць тату ў колькасці грыбных трафеяў. Тут яшчэ адно паяcненне грыбной справы нас, пушчанскіх дзікуноў. Для майго бацькі грыбом лічыўся толькі каралеўскі баравік. Ён як грыбнік-паляўнічы ганяўся перад усім за імі. Ну, зразумела, у залежнасці ад сезоннасці грыбоў збіраў лісічкі, краснюкі, пахнюкі, зялёнкі, сінякі, апенькі, і таксама на суп бэткі — сыраежкі. Але менавіта толькі баравікі пералічваў на штукі, быццам трафейную звярыну пасля палявання. Раскладаў адзін каля аднаго, чорнагаловых каля чорнагаловых, светлых каля светлых, тыя з белымі спадамі асобна ад ужо пазеленелых. Глядзеў на іх з такой улюбёнасцю і адначасна ганарлівасцю, вымаў іх асцярожна з кошыка за ножкі, ніколі за шапачку; нас менавіта муштраваў тады такімі словамі, калі рука ўзялася за шапачку: «А каб цябе так увесь час за галаву цягалі, прыемна табе было б?». Пашана і павага да сабраных лясных скарбаў патрабавалі падзякаваць маці-натуры за яе шчодрасць. Бо сушаныя грыбы давалі таксама і фінансавы прыбытак. Завезеныя і прададзеныя перад каталіцкімі Калядамі ў Варшаве давалі добрую выручку перад святочнымі пакупкамі і былі важным прыбыткам у гаспадарцы. У зімовы перыяд у пушчанскіх хатах з'яўлялася шмат гандляроўперакупшчыкаў, якія скуплялі сушаныя грыбы, каб потым перапрадаць іх далей у Польшчу.

Самае аднак галоўнае тое, што сабраныя грыбы былі важным фактарам у нашай беларуска-сялянскай кухні. Соленыя, марынаваныя, сушаныя, а зараз нават марожаныя. Усё гэта можна перапрацаваць і ўзбагачаць штодзённы сялянскі рацыён. Катлеты грыбныя, начынкі, супы — усё гэта працавітыя рукі нашых мам рыхтавалі на штодзённы стол. Зараз у рэстаранах плацяць за грыбныя стравы немалыя грошы, а мы ўсе гэтыя пахі і смакі мелі ўдоваль штогод.

**Яўген ВАПА**

# Беларускаму школьніцтву ў Беластоку 20 гадоў


Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Беларусы Беласточчыны сёлета адзначаюць 20-годдзе навучання беларускай мове ў Беластоку як мове нацыянальнай меншасці. Галоўную ролю ў вяртанні беларушчыны ў школы Беластока адыгралі бацькі. Яны і выступілі з ініцыятывай навучання сваіх дзяцей ад дзіцячага садка. У 2006 г. заснавалі аб'яднанне бацькоў дзяцей вывучаючых беларускую мову дзеля ўдасканальвання працы з дзецьмі ў школе і па-за школай. Сёння маладыя людзі, якія вывучалі беларускую мову ў пачатковых школах №№ 4 або 11, гімназіі № 7 ці III Агульнаадукацыйным ліцэі ў Беластоку пайшлі ў шырокі свет. Юбілей святкавалі разам — бацькі, вучні, выпускнікі школ. У царкве Яна Багаслова прайшла літургія на беларускай мове і малебен за вучняў, бацькоў і настаўнікаў. Галоўная юбілейная сустрэча адбылася 17 верасня ў кавярні «Zmiana Klimatu» па вуліцы Варшаўскай, у месцы ўжо вядомым з праводжаных тут розных беларускіх мерапрыемстваў. Цешылі выступ маладых танцораў з «Падляшскага вянка», спектакль «Народны альбом» у пастаноўцы гуртка «Гульня ў тэатр», навука народных танцаў пад музыку калектыву «Гуда» з Мінска, успаміны, здымкі, супольныя спевы.

— Мы тут як сям'я, — адзначыла Барбара Пякарская, адна з задумшчыкаў вяртання навучання роднай мовы ў Беластоку, сяброўка ўправы аб'яднання АБ-БА.


Барбара ПЯКАРСКАЯ і Мікола ВАЎРАНЮК

Фота Міры ЛУКШЫ

**Барбара ПЯКАРСКАЯ**: — Мы пайшлі ва-банк. У пачатку 1995 года дзве сям'і — я з Мірaславам ды Юрка з Мірай Каліны пачалі зрух. У нас былі малыя дзеці, у Калінаў ужо ва ўзросце дашкольнікаў, наша Ганулька крыху меншая, а Ліды ўвогуле яшчэ не было, я была цяжарнай. І ад вясны пачалі мы ажыццяўляць ідэю, якая нарадзілася ў галовах маладых бацькоў. Трэба было зрабіць рэкагнасцыроўку сярод знаёмых, у якіх былі малыя дзеці, потым пачалі пашыраць гэты круг. Потым пачалі хадзіць па розных установах, каб даведацца, якія магчымасці ў гэтым плане, каб заснаваць беларускі садок. Ведалі свае правы, прачыталі распараджэнне міністра, што ў нас ёсць правы на такое навучанне. Самі мы не маглі б нічога зрабіць. Трэба было знайсці будынак, настаўнікаў. Заняло гэта шмат часу, каб пра ўсё даведацца, зрабіць, пахадзіць па чыноўніках. І ў чэрвені атрымалі дазвол арганізоўваць дзве групы. Мы пайшлі ва-банк, яшчэ не ведаючы, ці збярэм дзяцей на дзве групы. Дасталі рашэнне, што садок нумар 14 будзе сядзібай нашай установы. Быў ён вельмі занядбаны. А адкуль знайсці настаўнікаў? І мы зрабілі конкурс, выбралі настаўніц. Пачыналася сціпленька. А пасля гэтых дваццаці гадоў гэты садок цвіце. Ад самага пачатку далучыліся да нас самыя **актыўныя бацькі**. І ў бацьках была і ёсць галоўная сіла. Ад самага пачатку мы арганізоўвалі розныя супольныя ініцыятывы. Сарганізавалі праект, які функцыянуе да сёння «Ад абраднасці да тоеснасці», пісалі сцэнары абрадавых спектакляў, гулялі ў іх з дзецьмі і настаўніцамі. Ужо пасля першага году былі ўжо дзеці, якія пайшлі ў школу. Праз год рашыліся мы пайсці далей — арганізаваць навучанне беларускай мове ў пачатковай школе. З'явіліся вельмі актыўныя бацькі дзяцей у гэтай узроставай групе. Кожнаму бацьку залежыць на тым, каб дзіця вучылася перш за ўсё ў добрай школе, а калі будзе там навучанне беларускай мовы — гэта дадатковы плюс. Апынуліся мы ў дырэктара ПШ № 4 — я, Рэната Більмін і Юрка Каліна — дырэктар паслухаў тое, што мы плануем, што ў нас ёсць настаўніца. Стварыліся дзве групы — у ПШ № 4 і ў ПШ № 11 міжшкольная (вучылі Аліна Ваўранюк і Тамара Бялькевіч). Пасля некалькіх гадоў застаўся клас у ПШ № 4, бо хто хацеў вывучаць беларускую мову, ішоў у «чацвёрку»... Пасля шасці гадоў было натуральна, што трэба сарганізаваць навучанне беларускай мове ў гімназіі, а пасля чарговых трох — шукаць ліцэя. І такім чынам у 2006 годзе навучанне беларускай мове было магчымым ад садка да ліцэя. І так ёсць па сённяшні дзень. Я ўжо маладых бацькоў, якія прыводзяць сваіх дзетак у садок не ведаю, тым больш што я тры гады ўжо не старшыня аб'яднання АБ-БА. Менш ужо ўдзельнічаю ў сустрэчах з бацькамі і ў некаторых мерапрыемствах, мае дзеці ўжо студэнткі. Кола бацькоў пашырылася, і гэта клас — справа ў тым, каб была перамальнасць. Галоўная справа, каб былі новыя людзі, якія прыйдуць з новымі ідэямі. Аднадумцы, але ўсё ж са сваімі ідэямі. Я шчаслівая, што ў нас так здарылася, што ў нас ёсць новыя бацькі, якім хочацца нешта рабіць. Гэта цяжкая праца. Хто працуе на грамадскіх пачатках, той ведае.

— Гэтая школа не з'яўляецца для іх «камерай захоўвання» дзяцей, самі ўключаюцца ў яе жыццё, вывучаюць мову, бо некаторыя ўжо яе не ведалі.

— Большасць гарадскіх бацькоў ужо не ведае беларускай мовы. Равеснікі нашых дзяцей яшчэ паміж сабою гаварылі (і гавораць) па-беларуску, на гаворцы, а сярод найменшых цяпер гэта адзінкі, якія ведаюць дыялект. Іх бацькі гарадскія, нават і дзяды нарадзіліся ў горадзе. Сёлета ў першым класе ў «чацвёрцы» — 18 дзяцей. Гэтыя дзеці ад самага пачатку займаюцца навукай — гэта адно, ходзяць на розныя дадатковыя заняткі ад музычных да спартыўных, шахматных і гэтак далей, а таксама большасць з іх прымае ўдзел у нашых занятках, якія мы прапануем. У танцах, у тэатральных і музычных занятках, ездзяць на летнікі.... Тыя маладыя людзі, якія ўжо студэнты або ўжо і кончылі вышэйшыя школы, з перспектывы могуць даацаніць, якое гэта было важнае. Гэта не толькі проста гульня, бо за кожнай гульнёй ідзе навука. Бачу па сваіх дзецях, бачу па дзецях сяброў, якія яны **адкрытыя**. Адкрытыя на свет, на іншых людзей, на ўсё іншае. Бо таксама дзякуючы таму, што яны свядомыя таго, кім яны ёсць. Ведаю, што Аліна як настаўніца ніколі не вяла такой «палітыкі», каб гаварыць дзецям «вы беларусы», таму што гэта заданне сям'і, але яна і мы праз усе нашы дзеянні даем магчымасць думаць гэтым маладым людзям, каб яны зразумелі, што ў іх выбар, што яны маюць права быць іншымі, што гэта нічога страшнага, а тым больш нічога горшага быць іншым сярод большасці. І гэта клас. А таксама заняткі — культурныя, тэатральныя, даюць пасля магчымасці ў кантактах з іншымі людзьмі. Гэта ўжо дарослы чалавек можа сабе растлумачыць. Малое дзіця проста гуляе, гэта яму падабаецца.

— Набіраюць таксама адвагі — я гэта мы — група.

— З'ездзілі мы таксама ўсю Беларусь. Гэтага ў адзіночку сам ніхто не здолеў бы зрабіць. Ніхто не здолеў бы сустрэцца са столькімі цікавымі, разумнымі людзьмі. Не мог бы пазнаць краіну з такога боку. Магчыма, калі едзе малалетак, ён можа гэтага і не разумее ў той момант. Ужо колькі раз гаварыла я з гэтымі дарослымі цяпер людзьмі. Яны гэта ўспамінаюць як нешта незвычайнае. Як магчымасць, якую проста дасталі і пакарысталіся гэтым. Наступная справа — «Басовішча» ад гадоў арганізуюць нашы дзеці. Мае таксама, але ў сэнсе нашы — беластоцкія, якія ад гадоў пераняў цяжкую грамадскую працу. Гэта і адказная, і цяжкая для студэнтаў справа. Але яны так прывыклі да дзейнасці, да творчае працы, напэўна прыклад браўшы і з нас, бацькоў. Для іх было гэта натуральнае, што трэба нешта рабіць. Праўда, напрацуешся — але пасля якое задавальненне, класнае, непаўторная дасведчанасць на ўсё жыццё. І ва ўправе аб'яднання АБ-БА трэба аддаць месца маладым. Але ўсе ўдзельнікі, таксама пачынальнікі, застаюцца. Як арганізацыя можам больш. Шмат раней мы ўсё рабілі ўласнымі рукамі — рамантавалі клас, шукалі грошай на летнікі, на паездкі. Не было адкуль узяць нейкія грошы. Прытым нас было яшчэ мала. Да сёння мы ўсе ў кантакце, бываем на нашых мерапрыемствах. У кожны момант можна на іх разлічваць... Частка нашых абітурыентаў ужо замужам, маюць дзяцей. Тэарэтычна маглі б іх дзеці прыйсці ў наш садок.

— Падмурак ужо зроблены.

— Няма так, што «мы стварылі», а пасля нас ужо канец свету. Я спакойна магу сказаць, што я адыходжу, а ёсць наступныя людзі, якія зробяць гэта напэўна не горш за нас. І гэта адзін з нашых найбольшых поспехаў.

**Кацярына ПАЎЛОЎСКАЯ**, старшыня аб'яднання АБ-БА:

— Я як старшыня ўжо чацвёрты год, мая «кадэнцыя» канчаецца. А трапіла я ў арганізацыю праз Тамару Карнілюк, мае дзеці (сын і дачка) яшчэ былі ў садку. Калі трапілі яны ў «чацвёрку», пачаліся новыя заданні, новыя выклікі. І рэчы, якія АБ-БА прыдзяліла мне як заданні. Маё першае заданне гэта быў... АБ-БАль. Старшыня аб'яднання гэта толькі асоба, якая прадстаўляе. Бо калі б не было іншых асоб, не было б аб'яднання. Ёсць і Тамара Карнілюк, і Бася Пякарская, і Аліна Ваўранюк, і Уля Іванюк, і Маня Здрайкоўская, і Эва Пякарская, і Анеля Скаўронская. Усе тыя асобы ведаюць, што ў аб'яднанні ёсць да работы. Мы адказныя за розныя справы. Не было б арганізацыі, не было б праектаў. Бо гэта шмат працы, шмат работы пасля гадзін на рабоце, бо ўсе ведаюць, што мы працуем тут на грамадскіх пачатках. Напачатку трэба запрацаваць на тое, каб падзейнічаць грамадска... У кожнага з нас ёсць дзеці, робім усё дзеля дзяцей, сваіх і сяброў. Для мяне вельмі важна, што новыя бацькі ангажуюцца ў праекты. Адны больш у танцы, і дапамагаюць, іншыя арганізуюць паходы на байдарках, іншыя ходзяць на рэпетыцыі, пільнуюць дзяцей на гуртках. Гэта вельмі важна, тая ангажаванасць бацькоў у праекты. Усё, што робім, усё робім такой вялікай сям'ёю. Хто пачынае штось рабіць з намі, адчувае сябе ў вялікай радні. Кожнае дзіця, якое хоча вывучаць беларускую мову, хоча хадзіць на ўсе заняткі — ці на танцы, ці на тэатр або спевы — не прымае ўдзелу ў нейкім кастынгу. Ідуць куды хочуць і працуюць, гуляючы. І няма «незагаспадараных» бацькоў. Для ўсіх ахвотных да працы штось знойдзем, чакаем іх з адкрытымі рукамі. Найлепш ведаем бацькоў дзяцей, якія прыходзяць да нас з садка. Менш ведаем спачатку тых, што прыходзяць у школу з іншых садкоў, а хочуць вывучаць беларускую мову і культуру. Чарговы год у школе маем два паралельныя класы, якія вывучаюць беларускую мову. Адзін клас — дзеці пасля садка № 14, другі — дзеці якія прыйшлі з горада. Ёсць дзеці, якія атаясамліваюцца з беларускай меншасцю, і такія, для якіх культура меншасці ёсць цікавай. Добра, што ёсць такія бацькі, якім цікава пасласць дзяцей у школу, каб вывучалі мову меншасці. Гэта адкрытасць на тых, хто жыве ў Беластоку. Чым больш будзем адкрытымі, тым менш будзем баяцца таго, чаго не ведаем. Так што чакаем усё новых адкрытых бацькоў і дзяцей у нашай беларускай грамадзе.

Міра ЛУКША


Кацярына ПАЎЛОЎСКАЯ

Фота Міры ЛУКШЫ

## Тамара 43 гады

Прыгожы кветкавы магазін „Тамара" Тамары Кірылюк у цэнтры Гайнаўкі (побач скрыжавання вуліц 3 Мая, Варшаўскай і кс. І. Верабея з кругавой развязкай) працуе 11 гадзін з палавінай кожны дзень. Існуе ён 43 гады, найдаўжэй ад іншых з такімі цудоўнымі аздобнымі раслінкамі. У ім 43 гады працуе Тамара Кірылюк і 22 гады другая вопытная кветачніца Ірэна Буйноўская. Варта дадаць, што яны вядуць фларыстычныя курсы для ўсіх ахвотных паглыбляць свае веды на розныя тэмы звязаныя з кветкамі.

У магазіне „Тамара" поўна розных кветак, між іншым, пахучых лілій, белых і чырвоных гваздзік, чырвоных, белых і жоўтых руж, бягоній, маргарытак, фрэзій, гербер, астрамерый, кустромаў і малых дэкаратыўных сланечнікаў. Прадаюцца жывыя і штучныя кветкі. Жывыя ў кветніцах-вазонах (будуць гэта перш-наперш белыя, жоўтыя, ружовыя і чырвоныя азаліі, антур'юм, бягоніі, юкі, кратон, прымулы і ятрышнікі) і без іх. Букеты прадаюць з усё больш вытанчаным упрыгажэннем ды з упакоўкай.

Зараз найбольш кветак купляюць у „Тамары" ў Міжнародны дзень жанчын і ў Дзень маці. Кветкі спадарожнічаюць нам у розныя жыццёвыя моманты. Кветкі збліжаюць людзей. Даюць радасць. Жанчыны ў маладым і пажылым узросце любяць, калі дораць ім кветкі мужчыны. І за гэта мацней іх любяць.

## Грыбы ўрадзілі



У першай дэкадзе верасня гэтага года ў лясах Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета ды ў Міхалоўскай гміне Беластоцкага павета ўрадзілі найважнейшыя грыбы — баравікі. Апрача іх грыбнікі збіралі пліскі, бабкі, краснюкі (назва ад чырвоных шапачак), г.зв. падгрыбкі, каўпакі і рыжыкі, а таксама грыбы-парасонікі, якія палякі называюць канямі.

8 верасня г.г. Кастусь Целушэцкі з Новага Ляўкова знайшоў і прынёс дадому трыццаць баравікоў. Іншых грыбоў ён не браў у кошык. Я зрабіў яму і баравікам здымкі.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## Цэнавая гушкалка

Сёлета цяжкі год для садаводаў і агароднікаў. Замаразкі ў красавіку і траўні пашкодзілі на поўдні палову суквеццяа. Гэта гаварылі мне сяброўкі з Ніжнешлёнскага ваяводства — з наваколля Аляснíцы — Івона і Бажэна, з якімі ўдзельнічаў я на рэабілітацыі ў Белавежы. Найгоршая затрата ў вішнях, чарэшнях, трускалках, яблыках і грушах, якія найбольш падаражалі. Па ацэнцы ГУС пры канцы жніўня спажывецкія цэны павысіліся на 1,8% у гадавым маштабе ў параўнанні да мінулага года. Панізіліся цэны вопраткі і абутку. Тычыцца гэта імпартных тавараў. Залатоўка падаражала. Панізілася цана цукру ў ліпені на 8 працэнтаў. Еўрасаюз адмяніў «цукровыя квоты». Зараз дазваляецца вытворцам вырабляць неабмежаваную яго колькасць. Шпарка павышаецца цана масла. У ліпені, напрыклад, кавалак вагой у 250 грам каштаваў 6,40 зл., на пачатку года 4,93 зл., а год таму 3,91 зл. Падобная справа з малаком. У мінулым годзе ўльтрапастарызаванае малако UHT-1,5 каштавала 1,82 зл., а зараз 1,99 зл. Павышаюцца адпаведна цэны шынкі на 8% і каўбас на 16%. Паўплывала на гэта прыбаўка платы, затым падаражала наша мяса на сусветным рынку. Свініна, напрыклад, у ЗША на 52%. І за акіян зараз Польшча найбольш яе пастаўляе. Даражэюць вугаль і электраэнергія. Што нас чакае ў наступным годзе, цяжка сказаць. Адно Усявышняму гэта можа быць вядомым.

**Уладзімір СІДАРУК**




— Выбачайце, здрадзіла вас, больш не буду, абяцаю, — тлумачу майму беластоцкаму цырульніку. Маёй галавой займаецца ён ужо больш за дваццаць гадоў. У гэтым перыядзе недзе чатыры разы ўсяго пападала я пад іншыя нажніцы. За кожным разам новую стрыжку трэба было хаваць пад хусткай.

— Але, як гэта вам сказаць, апошнім часам адна паважаная цырульніца заўважыла, што вы крыва мяне падстрыглі.

— Не можа быць, — дзівіцца цырульнік. — А ці ўсе пальцы ў вас роўныя, а бровы, вушы, профілі? — пытае, не чакаючы адказу. — Зразумейце, што проста гэта крыва, а крыва гэта проста.

Такім чынам выявіўся чарговы, у гэты раз філасофскі, талент майго цырульніка. Нашу размову вядзем гледзячы ў вялікае люстра. Так мне больш камфортна. Дваццаць гадоў я з ім увогуле не размаўляла. Вядома, я — вясковая, крыху здзічэлая жанчына, але ў канцы нияк адваркалася. Апрача мяне ў вялікай, добра спраектаванай зале сядзіць перастарэлая жанчына. Цярпліва чакае пакуль фарба канчаткова закрые сівыя ад старасці валасы. Ну што ж, мабыць не хоча, каб нехта даведаўся, колькі ёй гадоў. Побач мітусіцца цырульнікава жонка-памочніца, дагледжаная, доўгавалосая русалка.

Папраўдзе гаварыць з ім не было патрэбы. Ён жа найлепш ведае, што зрабіць з маімі валасамі. Навошта тады ўмешвацца ў чужыя думкі. Перада мной, як у кожнай пачакальні, куча газет для дурненькіх жанчын пра такіх жа жанчын. Свежыя нумары. Ад нуды лістаю каляровыя старонкі. Дзве трэція цэлага нумара займаюць дзіўныя здымкі дзвюх дагледжаных жанчын. Уніізе цытата: «У жыцці найважнейшая праца».

— І дзе ж яны працуюць? — думаю сабе. — Ці ўвогуле перапрацавала адна з другой хаця б адзін дзень у цэлым жыцці?

Мае знаёмыя старажылы сцвярджаюць, што сённяшнія людзі не ўмеюць працаваць, што зарабляюць грошы нічога не робячы.

— Разумныя жанчыны, — адзываюся раптам. Цырульнік у адказ кідае нейкае невядомае мне прозвішча.

— Выбачайце, — тлумачу сарамліва. — Я не гляджу тэлебачання і не чытаю такіх газет.

Аказваецца, ён таксама нічога не аглядае, але ўсё ведае. Кліенткі распавядаюць і радыё, нейкая дурная радыёстанцыя, якая пілуе тут нон-стоп колер. Чаму менавіта гэтая радыёстанцыя, чаму толькі дурненькія газеты? Можа хоча ён стаць нейтральным у канфрантацыі з мажэровымі ці левацкімі кліентамі. Цалкам недурная ідэя. Надта дыпламатычна. Нейкім чынам наша размова выходзіць на літаратурныя тэмы.

— Ведаеце, што звычайны, шараговы пецярбуржац гэта паланафіл? — гавару быццам пра адкрыццё новага кантынента.

— Еду ў Пецярбург, — абвяшчае рашуча.

Але не варта туды ехаць з Вэнцлам, Вільдштэйнам ці Лісіцкім. Шкада энергіі і сродкаў. Яны любяць толькі Мілаша, Конрада, Віткацыя.

— Ці магу нешта сказаць? — раптам умешваецца бабуля з фольгай на галаве

Ад страху адняло нам мову, цяпер спадзяваліся найгоршага.

— Не перакрыжоўвайце ног, а то вас крыва пастрыгуць.

Дзякуй Богу, Мілаша ў гэты раз не чапалі.

— А мне так хочацца сесці і спакойна прачытаць кніжку, найлепш гістарычную, — летуценіў цырульнік. Тут мы зышліся на Цат-Мацкевічу. Але зараз разышліся на майках з нацыянальнай сімволікай. Дзякуй Богу, што іх не надзявае ў сваёй цырульні. Ад такой майкі простая дарога да жыдоў, рускіх і эмігрантаў, да «мая хата з краю, нічога не знаю».

— І ў вашых Крынках так гавораць? — застывае з нажніцамі ў руках ад гукаў «рускай» мовы.

Ну і цяпер ён мяне пастрыжэ, — думаю сабе. — Праўду баба казала, каб ног не крыжаваць.

— Ці ж не павінны мы вучыцца жыдоўскай прадпрымальнасці? — ловіць мяне быццам кошка мыш.

— Асабіста я знаёмая толькі з жыдоўскімі гуманістамі, — тлумачу яму коратка.

— А эмігранты? — праходзіць да фіналу. Тут усе прысутныя замаўкаюць у чаканні майго адказу.

— Ад дабра, мабыць, не выязджаюць, — кажу да люстэрка.

— Але ж бедныя застаюцца. І жанчыны, і дзеці, — атакуе пісклявым голасам русалка.

— Ну і не ведаю ці я б засталася, ці ўцякала б. Мабыць, у першую чаргу думала б пра дачку, а толькі пасля пра прывязанасць да айчыны.

Здаецца, трапіла ім у сэрца. Яны ж таксама выхоўваюць адзіную дачушку. Цяпер голас бярэ бабуля ў фользе. Ад дзесяткаў гадоў пражывае ў Амерыцы, мае добрую працу і толькі мексіканцы ёй надта дакучаюць, даводзяць яе Амерыку да руіны.

— У Мексіцы жывуць толькі бедныя альбо надта багатыя. Іншых няма, — тлумачыць як самы лепшы спецыяліст.

— Ёсць там яшчэ мая сястра з мужам і дзіцём, — страляю са свайго кулямёта.

— Прыязджаюць да вас часам? — пытаецца нясмела русалка

— Не, гэта надта дорага. Зрэшты, з шакаладным дзіцём лепш ім тут не паказвацца. А то яшчэ падумаюць, што тэрарыст. А пакуль што ў нас дастаткова айчынных, белатварых турыстаў-тэрарыстаў. Людзі ў падкрушынянскіх вёсках пачалі ў хатах зачыняцца, нікому не давяраюць. Неадночы іх находзілі, нож да горла прыстаўлялі, каб грошы ўзяць.

Цырульнік настолькі ўцягнуўся ў размову, што і пра грошы прызабыў.

— Хаця я правіцовец, добра мне з вамі гаварыцца, — прызнаецца на завяршэнне.

— Я вас не асуджаю, я ж сама часта памыляюся, — тлумачу. — Я папрошу трымаюся прынцыпаў, пабудаваных на ўласным досведзе. А так увогуле свет цікавы, калі ўсе ў ім аднолькавыя. Супрацьўленне — сэнс існавання і істота творчасці, а доказам — ваша крыва-простая стрыжка.

**Іаанна ЧАБАН**

## Паніхіда

Памінальная паніхіда ў беластоцкім саборы. Два кланы падаюць запіскі за сваіх пакойнікаў. Святар чытае запіску з імёнамі пакойнікаў майго клана. Чую, што ў кароткім пераліку ўсклікнуў ён за „Зінаіду". Паводле маёй памяці не было такой у маім клане; але ж — не я падавала запіску, магчыма, што такая была, пра якую не быў я свядомы. Ведаю, што павінен быў маліцца за Зіновія. Чакаю паўторнага перачытвання — можа заміж саграшэння будзе выпраўленне, каянне. Але не: зноў заміж за Зіновія — за Зінаіду. Пасля службы заглядаю ў запіску, а там так як трэба — за „Зіновія"; напісана дакладна, старанна, у родным склоне, па правілах.

ПАНИХИДА
о упокоении душ усопших
рабов Божиих

Зіновія

Шчыра кажучы — гэтыя імёны падобныя і этымалогія выводзіць іх ад Зеўса. Магчыма, што нейкі загублены, невядомы дагэтуль нам, фрагмент старажытнагрэчаскай міфалогіі паведамляў і пра такую ж міфалагічную касмагонію. І цалкам магчыма, што згодна апошняй Зеўс зляпіў чалавека з гліны, а пасля выняў у яго рабрыну, акругліў-упрыгожыў, і назваў тым абедзве вяршыны свайго тварэння ад свайго імя...

Партал pravmir.ru „Мы веруем, что души людей, впавших в смертные грехи и при смерти не отчаявшихся, но покаявшихся еще до разлучения с настоящей жизнью, только не успевших принести никаких плодов покаяния (такими плодами могли быть их молитвы, слезы, коленопреклонения при молитвенных бдениях, сокрушение, утешение бедных и выражение в поступках любви к Богу и ближним), — души таких людей нисходят в ад и терпят за учиненные ими грехи наказания, не лишаясь, впрочем, надежды на облегчение. Облегчение же они получают по бесконечной благости Божией через молитвы священников и благотворения, совершаемые за умерших, а особенно силою бескровной жертвы, которую, в частности, приносит священнослужитель для каждого христианина за его близких...".

А што будзе, калі святар даставіць памылковую падачу? Ці будзе яна адкінута Адрасатам, як, напрыклад, у салідным бюро? Ці будзе прынята чыста фармальна? Ці мо будзе зверана з тым, што было ў запісцы?..

І чарговае пытанне: ці святар памыліўся? Можа як той да канца яшчэ невядомы Зеўс — акругліў і ўпрыгожыў... Ці свядома падмяніў імёны? Хабару хіба ніякага не ўзяў, каб зрабіць апошняе. Цалкам тады магчыма, што тое імя выплыла з глыбіні ягонай душы. Што названае ім імя яму неабыякавае, што яно яму цёплае, а мо нават гарачае, вібрантнае. Святар жа таксама чалавек, нават калі ён у сярэдніх гадах.

Той жа партал пацяшае: „Не стоит смущаться также, если вы не услышали упоминания имен ваших родственников на ектении". А калі пачулі мішмаш, дык хіба таксама не трэба бянтэжыцца. Мабыць, святар сам найлепш ведае, колькі вартая ягоная малітва...

Пытаю падавальніцу запіскі, ці заўважыла перайначанне. Не заўважыла. Значыць — *hulaj dusza, piekła nie ma*. Хаця магчыма, што *души таких людей нисходят в ад и терпят за учиненные ими грехи наказания*. Пажывём, заглянем...

**(ав)**



# Успаміны са ссылкі ў Сібір

## Расказ **Ядвігі КАРПЮК**, народжанай у 1927 годзе ў Бярнацкім Мосце, зараз пражываючай у дачкі Крыстыны ў Орлі.

**Жылі мы ў вёсцы Боўтрыкі ў Міхалоўскай гміне. У нашай сям'і было пяць асоб: мама Марыя, тата Андрэй і тры сястры: 19-гадовая Антоля, 15-гадовая Станіслава, а мне было тады 12 гадоў. Жыццё праходзіла спакойна і без асаблівых турбот. Тата працаваў гаёвым у дзяржаўным лесе. Мама была добрай хатняй гаспадыняй і ўсё неабходнае для жыцця ў нас было. Апрача хаты і гаспадарчых будынкаў быў у нас дабытак, а таксама матэрыял на новы дом.**

Калі ўспыхнула Другая сусветная вайна, пасля 17 верасня 1939 года на нашы тэрыторыі ўвайшлі саветы. З таго моманту настаў для нашай сям'і неспакойны і няпэўны час. Прадстаўнікі савецкіх улад сталі чапляцца да майго бацькі. Спачатку звольнілі з працы ў лесе, адабралі табельнае ружжо — карабін і пісталет, пагражалі ўсялякімі санкцыямі. Хадзілі чуткі пра расстрэлы леснікоў, пра рабаванне іх маёмасці. Такая атмасфера вельмі адмоўна ўплывала на настрой у нашай сям'і. Мы жылі ў пастаянным трывозе.

10 лютага 1940 года ў першую гадзіну ночы нехта голасна загрукатаў у нашы дзверы. Бацька адкрыў і ў нашу хату ўвайшлі тры вайскоўцы з гатовымі да стрэлу карабінамі. Былі гэта два салдаты і адзін энкавэдыст, які заявіў, што наша сям'я арыштавана і будзе вывезена ў глыб Расіі. Адвялі нам дзве гадзіны для спакавання. Сказалі, што фурманкі ўжо гатовыя да выезду.

З вялікім перапалохам бацькі пакавалі рэчы, а пасля пагрузілі нас на фурманкі. Стаяў люты мароз. Везлі нас 25 кіламетраў у Свіслач. Там на станцыі пагрузілі нас у быдлячыя вагоны. Былі там ужо іншыя людзі. Пасярэдзіне вагона стаяла чыгунная печка, якая ледзь грэла. Везлі нас два тыдні. Бачыла я жудасныя сцэны, людзей слабых, хворых, некаторых выкідалі навонкі. У Чалябінску людзей падзялілі — частку накіравалі ў Сібір, а нас на Урал у горад Карабаш.

У наваколлі горада былі шахты жалезнай руды, і там пачалося наша гора. Маму адразу забралі на працу ў шахту, семсот метраў пад зямлёй; старэйшая сястра Антоля таксама трапіла ў шахту — пяцьсот метраў пад зямлёй. Мама расказвала, што ў шахце стаяла вада і перад спускам уніз атрымлівалі калошы, дзіравыя. За тую знясільваючую працу плацілі марныя грошы, да таго ж нерэгулярна. Там тады лютаваў страшэнны голад, часам давалі маме па лусце хлеба. Мы, дзеці, чакалі вяртання мамы з працы і марылі, каб наесціся хлеба, але нашы мары ніколі не здзейсніліся. Мама з сястрою часам прыносілі з працы сырую хлебную рошчыну, г.зв. кісляціну, але гэта не было тое, што хлеб. Кісляціну прыносілі ў галаўных хустках і з яе варылі нам кіслую поліўку, якую мы пілі. Такое было наша харчаванне.

Іншай бядой было наша жыллё. Пасялілі нас у агідных бараках, у якіх дакучалі нам клапы, блохі і вошы; з-за іх не спалі начамі.

З першых дзён у Карабашы нашага бацьку забірала НКВД на доўгія допыты. Бацька змоладу вучыўся кравецтву і, дзякуючы гэтаму скіравалі яго ў швальню, дзе шылі вопратку з сабачых шкур. Называлі іх дохамі; шылі ўручную.

Так жылі мы да 1943 года. Пасля дамовы саветаў з Сікорскім перавезлі нас у Казахстан; там стала крыху лягчэй. Атрымалі крыху вопраткі і пакункі з ядой, але гэта трывала нядоўга. Пайшлі чуткі, што мелі нас забраць у Англію, але так не сталася. У Казахстане ўспыхнула эпідэмія тыфу; памерла многа людзей. Добра памятаю агромныя могілкі, на якіх стаяў толькі адзін крыж, бо там пахавалі духоўнага.

У Казахстане працавалі і мы, дзве маладшыя сястры — матычылі саджанцы дрэў. Нашу сям'ю намаўлялі, каб не пісаліся палякамі, толькі беларусамі, але мы гэтага не зрабілі.

Дачакаліся красавіка 1946 года — тады скончылася наша бадзянне. Падалі чыгуначны транспарт з надпісам „Wracamy z gościnnej ziemi do Polski”. А там была нэндза. Здаралася, што аставаліся там маладыя хлопцы, што ўлюбіліся. Вярталася многа яўрэяў, пераважна з Варшавы. Вагоны былі нармальныя, пасажырскія.

Вярталіся ў былыя нямецкія землі. У Галянёве сакісты размяркоўвалі людзей паводле нацыянальнасці. Вельмі дрэнна адносіліся да яўрэяў. Нам прапанавалі пасяліцца ў пакінутых немцамі будынках — дамы з чырвонай цэглы, шафы поўныя адзення. Але куды ні зойдзеш — труп у пасцелі...

Мы хадзілі аглядаць пустыя дамы. Gollnow, Gołonóg, Goleniów — так агульна называўся горад, у ім была фабрыка мэблі. Быў май, горад быў у кветках. Многа разумных палякаў там асталося. А мы вярнуліся да сябе, у Боўтрыкі, але з нашай маёмасці нічога не засталося. Вярнуліся на пусты пляц, будынкі разабралі свае суседзі. Нас прыняла адна сям'я, пасля гміна дала нам нейкую старую хацінку; пазней пабудавалі сваю. І так, пасля шасці гадоў прабывання на чужыне зноў сталі жыць у Польшчы, не цалкам самастойнай. Нельга было занадта адкрыта гаварыць пра нашу вывазку і перажытыя там пакуты — гэтая тэма афіцыйна замоўчвалася. Толькі пасля змены грамадскага строю ў Польшчы ў 1989 годзе ўсё памянялася, завітала сапраўдная свабода.

Запісаў **Міхал МІНЦЭВІЧ**
Фота Міхала МІНЦЭВІЧА

# Забытая брацкая магіла

Калі ў снежні мінулага года наведаў я спадара Уладзіміра Сасну ў Пашкоўшчыне, сказаў ён мне, што побач вёскі знаходзіцца магіла нямецкіх салдат з часу Першай сусветнай вайны. І завёў мяне на тое месца.

— Тут 22 жніўня 1915 года ішлі цяжкія баі. І тут пахавалі немцаў, якія тады, у ходзе тых баёў загінулі. Была тут узведзена магіла, якая была абгароджана дротам, расцягнутым на бетонных слупках. Шмат іх тут пахавана, мо з пяцьдзясят, можа і сто нават, — расказаў мне.

З часам тая агароджа стала знікаць і сёння астаўся толькі невялічкі бугарок. Магіла быццам знікае. Невядомы нам лік пахаваных тут пакойнікаў, таксама невядомыя нам іх імёны і прозвішчы, яны захоўваюцца недзе ў Царстве Нябесным. Час ад часу ўзгадаюць пра іх усіх, ананімных, *павших на поле брани*, нямногія святары. А часцяком узгадаюць толькі пра сваіх, *павших во брани за независимость земли нашия от ига неверных, яко защищавших от врагов веру православную, защищавших отечество в тяжкие годины от иноплеменных полчищ...*

Такі лёс радавых жаўнераў. Тых, што не дабіліся перамогі сваім уладарам. У ходзе Другой сусветнай вайны савецкі пісьменнік Ілья Эрэнбург пісаў: „Немцы умеют мучить людей, и люди ненавидят даже мертвых немцев. Их не хоронят, их закапывают”. І пра іх усіх паволі забываюць, нават пра пахаваных, пахаваных нават да наступу дактрынальнай нянавісці...

Гэта пра радавых жаўнераў. Забываюць іх. А пра іх уладароў? Нямецкі кайзер Вільгельм ІІ, які пасылаў сваіх жаўнераў, між іншым у наша наваколле, пасля звяржэння з трону знайшоў прытулак у Нідэрландах, каля Утрэхта, дзе памёр у 1941 годзе і там пахаваны ў невялічкім маўзалеі; побач маўзалея пахаваны ягоны сабака. Астанкі апошняга расійскага цара Мікалая ІІ былі ў 1998 годзе перапахаваны з Урала, дзе пакоіліся 80 гадоў, у Петрапаўлаўскі сабор у Пецярбургу; цар залічаны ў лік святых...



Уладзімір Сасна паказвае закінутую магілу

Сімвалічна лічыцца, што пачатак Першай сусветнай вайне даў сербскі юнак Гаўрыла Прынцып, забіваючы ў Сараеве наследніка аўстрыйскага трона. Памёр ён у турме ў 1918 годзе, спярша пахаваны ў ананімнай магіле каля турмы, а ў 1920 годзе перапахаваны на праваслаўных могілках у Сараеве, дзе ў 1939 годзе была яму ўзведзена грабніца.

Кожнаму свой лёс, нават пасля смерці. Марыя Канапніцкая пісала калісь, яшчэ да згаданай вайны: „A na wojnie świszczą kule, lud się wali jako snopy, a najdzielniej biją króle, a najgęściej giną chłopy”. У Першую сусветную вайну загінула каля дзесяці мільёнаў чалавек...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

зорка

для дзяцей і моладзі


# 20 гадоў беларускаму школьніцтву ў Беластоку!

У «Зорцы» ад 21 верасня 1997 года рэпартаж «Родная мова ў Беластоку» і першы здымак. На ім: Наталька Швед, Міхась Каліна, Эля Юшчук, Майка Більмін, Караль Заборскі. З першакласнікамі-першапраходцамі настаўніца Аліна Ваўранюк і мецэнат Пятро Юшчук.

20 гадоў мы пісалі пра іх так:

*«...Урокі роднай мовы ў Беластоку вядуцца з першага класа. Дзеткі сустракаюцца тры разы ў тыдзень. — Яны ўсё разумеюць, — кажа настаўніца. Урокі вядзе поўнасцю па-беларуску. — Гэта дазволіць зразумець ім, што беларуская мова ў школе з'яўляецца натуральнай справай. Мая, Эля і Міхась — выпускнікі беларускага прадшколля.*

*— У першым класе мы будзем вывучаць песні, вершыкі, гуляць у розныя гульні. У другім класе пазнаёмімся з літаркамі, — кажа Аліна Ваўранюк.*

*— У час маёй пабыўкі дзеткі гулялі «ў коцікаі мышку». Першакласнікі вельмі хутка вывучылі словы новай гульні:*

*Тут на лаўцы*<br>
*Дзеці селі,*<br>
*Тут вароны*<br>
*Прыляцелі.*<br>
*Тут прыселі*<br>
*Ля варот.*<br>
*Гэта маці,*<br>
*Гэта кот!*

*Пазней кот шукаў манету, якую падкінула ў далоні дзяцей «маці». Было многа радасці...»*

*«— У школе лепш, як у прадшколлі, — кажа Міхась Каліна. Хлопчыку падабаюцца прасторныя калідоры, на якіх можна гуляць у хованкі, і новыя кніжкі...».*

Зорка

старонка для дзяцей

Родная мова ў Беластоку





А вось, як 20 гадоў пазней напісалі яны самі, пра значэнне ўрокаў беларускай мовы ў іх жыцці.

Многія з іх прыехалі на юбілей, які святкавалі 17 верасня ў беластоцкай кавярні «Змена клімату». Ад імені абітурыентаў кранальна і прыгожа выступіла Наталля Швед і яе сябры Эва Сегень і Міхась Каліна. Пасля выступілі іншыя выпускнікі, сёння студэнты варшаўскіх, кракаўскіх і беластоцкіх вышэйшых устаноў. Усе свабодна і талкова выказваліся на роднай мове. Цудоўным дапаўненнем свята былі танцы «Падляшскага вянка» і музычны спектакль «Народны альбом» у выкананні вучняў.

Пасля афіцыйнай часткі ўдзельнікі танчылі народныя беларускія танцы, да якіх ігралі мінскія музыкі пад кірункам Вікі Міхно. Юбілейную праграму папоўнілі конкурсы і жартоўныя гульні. Свята цягнулася ад рання да поўначы. А ўсё пачалося з дастойнага моманту. Раніцай, у беластоцкай царкве св. Яна Багаслова была адслужана літургія і малебен на беларускай мове. Багаслужбу на роднай мове саслужыў айцец Андрэй Кузьма з дапамогай хароў пад кірункам Анны Васькоўскай і Марціна Алексеюка. На канец малебна ў царкве прагучаў беларускі духоўны гімн «Магутны Божа».

Ганна Кандрацюк,<br>
фота аўтара

*PS. Выказванні вучняў сабрала рэдакцыя «Беларускага настаўніка».*

# Пра значэнне ўрокаў напісалі беластоцкія выпускнікі

**Габрыель СКАЎРОНСКІ**: — Калі падумаць пра ўсе выезды, летнік, тэатральныя заняткі, то не ўмею сказаць, што найбольш мне падабалася. Усе гэтыя заняткі лічу таксама важнымі, бо дзякуючы ім многаму я навучыўся, сустрэў многа людзей і перажыў адны з найлепшых хвілін у маім жыцці з маімі сябрамі.

**Наталька КАНДРАЦЮК-СВЯРУБСКАЯ**: — Я перш за ўсё добра ўспамінаю тэатральны гурток. Думаю, што гэтыя заняткі памаглі нам стаць адважнымі асобамі, якія не маюць ніякіх праблем, каб выступіць у школе ці перад тэлекамерай. Гэта была таксама вельмі добрая гульня. Не памятаю, каб хтось з нас быў прымушаны да заняткаў праз бацькоў. Помню, што калі ў адным школьным годзе я не магла ўдзельнічаць у гуртку па прычыне заняткаў у музычнай школе, я была вельмі расчараваная і зайздросціла сябрам, якія іграюць у новай пастаноўцы. У наступным годзе я зрабіла ўсё, каб зноў быць членам тэатральнага гуртка.



Эва Сегень, Наталька Швед, Міхась Каліна



Злева: Лідка Пякарская, Оля Каліна, Ганка Пякарская, Юліта Тымашэвіч, Дарка Вапа, Дарка Дажынка, Юлька Скаўронская

гаварыць з бабулямі ды дзедкамі, з іншымі людзьмі, як іх слухаць. І як пераказаць гісторыю, каб яна не згубіла сваёй вартасці. У час „Хронік" я таксама задумалася над тым, што гэта якраз жыццё нашых продкаў стварыла нас такімі, якімі мы сталі. Гэта проста наша гісторыя. Яшчэ адна важная навука: Дыкцыя! Каб ніколі не забываць, што „к" на канцы слоў мусіць прагучаць.

Па-трэцяе — мае сябры, без якіх жыццё было б сумным.

**Юля СКАЎРОНСКАЯ**: — Успамінаў у мяне многа, замнога, каб пісаць пра ўсе, таму напішу пра адзін з найпрыгажэйшых. Ідзе пра зімні вечар некалькі гадоў таму. Сабраліся мы на сход „Хронік" разам з бацькамі. Навошта? Тады яшчэ не ведалі, але трэба то трэба. Там мы даведаліся, што ў нас з'явілася магчымасць паехаць у Злучаныя Штаты Амерыкі і паказаць „Ой даўно-даўно". Першая думка: гэта напэўна жарт, аднак гэта была праўда. Слёзы, смех, чаго там не было! Здзяйснілася наша мара. Мара, аб якой мы спявалі ў створанай намі песні. У ёй мы пералічалі мясцовасці, у якіх мы былі са спектаклем, па Пасынках, Гарадку і Бельску, на канцы прагучў Брадвей! Гэта адзін з успамінаў але з мараллю: Спявайце людзі, можа і вам пашчасціцца.

**Міхал КАЛІНА**: — Прыналежнасць да якой-небудзь меншасці патрабуе пэўнай псіхічнай і інтэлектуальнай падрыхтоўкі. Каб не загінуць у моры тых, на каго ты не падобны. Дзякуючы заняткам беларускай мовы ў школе я, а і пэўна большасць вучняў, дасталі магчымасць выраўшыць: хто мы і што з гэтым далей рабіць. І мне тут нават не ідзе пра гісторыю, веды і факты, толькі пра больш агульныя ўрокі абароны сваіх рацый і падтрымлівання сваіх аргументаў.

**Лідка ПЯКАРСКАЯ**: — Група маладых бацькоў 20 гадоў таму прыдумала, каб навучаць сваіх дзяцей беларускай мове. Думаю, што ніхто тады не думаў, як вартасным гэта стане для нашага жыцця. Хачу сказаць пра тое, што я для сябе вынесла за гэтыя гады.

Па-першае — чытаць кніжкі. І бацькі, і пані Аліна ўвесь час казалі, што разумныя дзеці чытаюць кніжкі. Аднак мне падаецца, што больш за паню Аліну немагчыма чытаць.

Па-другое — гурткі тэатральныя і самыя важныя для мяне „Падляшскія хронікі". Тысячы разоў мы ўсе казалі, што „Хронікі", гэта было тое, што нас прывяло да гэтага, кім мы сталі. Навучылі як

Успомню яшчэ некалькі эпізодаў з часоў навучання беларускай мовы:

1. Святочная сустрэча ў Прэзідэнцкім палацы! Не кожны меў нагоду правесці дзень са святой памяці Марыяй Качынскай. А мы так :)

2. Летнікі: тут цяжка расказаць адну гісторыю, але па-мойму гэта была адна з лепшых думак нашых бацькоў — „Бацькоў Беларускасцю Апантаных".

3. Выступы „Хронік": мінус 20 градусаў у Супраслі, песня „Back in time" у час выступу, здзек з нашых усіх памылак. Аднак найбольш засеў мне ў памяці выступ дзень пасля пахавання майго дзядулі, якога гісторыю я расказвала. Мама ды бабуля сядзелі ў першым радку, а я мусіла ў той час расказаць гісторыю чалавека, які некалькі дзён назад адышоў ад нас. Думаю, такія моманты нас фармуюць і ўсведамляюць, што дзякуючы нам, людзі, якіх ужо з намі няма, цэлы час жывыя ў гісторыях.

Дзякую за ўсё, беларуская мова! Жыве Беларусь!

**Фота Ганны КАНДРАЦЮК**



*Віктар Швед*

## *Наша Дваццаціголдзе!*

*Беларуская наша мова*
*Трапіла ў жыцця аснову.*
*Без мовы роднае, паверце,*
*Былі б мы блізкія ўжо смерці.*

*Дваццаць гадоў зусім шырока*
*Працуем мы ў Беластоку.*
*З АБ-БЫ нястомная Бася*
*Цяжкіх задач паднялася.*

*А папулярная Аліна*
*Дзетак вучыць няспынна*
*Беларускае роднае мовы*
*З кніжак сваіх каляровых.*

*А Бацькі, якіх вучацца дзеці,*
*Памагаюць Аліне ў асвеце,*
*Каб ёй у жыцці хапіла*
*Заўжды вытрымкі і сілы.*

*Дзякуем за тыя дваццаць*
*І будзем заўсёды старацца,*
*Каб шчаслівa нам і гладка*
*Другую распачаць Дваццатку.*

*Беласток, 17 верасня 2017 года.*

## УВАГА КОНКУРС! № 38-39-17

**Я на трубку гляну**
**І скажу Адрыяну,**
**Ці яму ісці гуляць,**
**А ці ў ложку паляжаць.**
**Т........**

**(У. Мацвеенка)**

**Разгадайце загадку, адказы дашліце ў „Зорку" да 1 кастрычніка 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 35-17: рукзак. Узнагароду, запісную кніжку, выйграла Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

## Польска-беларуская крыжаванка № 39-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 35-17:** Парык, як, раса, палын, памідор, расада, машыніст. Ас, парка, мама, лісты, Карыда, анод, рапс, клад.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Дам'ян Карнілюк, Магда Якубюк, Вікторыя Гаць** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Plan | | Ty / Ha! | | Wio / Strąk | | Jak / Sól | | | Wrzesień | |
| | | | | | | | Lublin | Nie / Jadło | | |
| | Odkurzacz | | Jabłka | | Ola / Blankiet | | | | | |
| | Wielbłąd / Gra | | | | | | | | | |
| | | Ziemniak | | | | | | | | |
| Igła | | | | | | | | Nie | | |
| Naskok | | | | | | | | | | |
| | | | | | | Zero | | | | |

# Новая дырэктар БДК

## Размова з новаабранай дырэктар Бельскага дома культуры **Альжбетай Фіёнік**

**— Вы працуеце ў Бельскім доме культуры ўжо больш за 20 гадоў. Пасля заканчэння навукі ў Беларускім універсітэце культуры ў Мінску па спецыяльнасці тэатральная рэжысура Вы былі добра падрыхтаваны да працы ў якасці тэатральнага інструктара.**

— Падчас навукі ва ўніверсітэце я займалася пад кіраўніцтвам славутага прафесара Ілы Сучкова па спецыяльнасці фальклорны тэатр. У 1995 годзе я паступіла ў аспірантуру па спецыяльнасці міжкультурная камунікацыя, дзе вучылася два гады і справілася з экзаменамі, за выключэннем апошняга. Калі даведалася, што ў Бельскім доме культуры ёсць работа якраз па той спецыяльнасці, па якой я вучылася, рашылася вярнуцца ў Бельск. Пачала я працаваць у БДК інструктарам па справах тэатра, выйшла замуж і нажыла з мужам Дарафеем трое дзетак. Гавару маім сябрам, што трое нашых дзетак, гэта мая кандыдацкая праца, бо сямейныя абавязкі не дазвалялі закончыць аспірантуру ў Беларусі. Працуючы ў БДК я многаму навучылася, атрымліваючы дапамогу ад працаўнікоў дома культуры.

**— Сталі Вы працаваць дырэктарам Бельскага дома культуры з 1 верасня і гэта адбылося пасля таго, як дырэктар Малгажата Біль-Яруззэльская вярнулася на працу ў Беласток.**

— Малгажата Біль-Яруззэльская кіравала домам культуры амаль 5 гадоў і вярнулася на ранейшую пасаду намесніка дырэктара Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку. Бургамістр нашага горада Яраслаў Бароўскі летам запрапанаваў мне стаць дырэктарам Бельскага дома культуры і гэта было для мяне нечаканасцю, бо я заўсёды працавала з дзеткамі і рыхтавала іх да выступленняў на сцэне. Падумала, што дырэктару трэба будзе многа часу займацца за пісьмовым сталом і кіраваць работай маіх супрацоўнікаў. Аднак важная была для мяне падтрымка ўсіх працаўнікоў дома культуры, якія заахвочвалі мяне прыняць прапанову бургамістра і стаць дырэктарам. Доўга я думала, што рабіць, раілася з сям'ёй і знаёмымі, пакуль прыняла прапанову. Работа дырэктара дома культуры адказная, але адначасна цікавая, бо магу тут многаму новаму навучыцца, запрапанаваць новыя формы дзейнасці і паспрабаваць сіл як арганізатар работы працоўнага калектыву.

**— Якія ў Вас новыя прапановы дзейнасці БДК?**

— Сёлета адзначаем 60-годдзе дзейнасці Бельскага дома культуры. За гэты перыяд наша ўстанова выпрацавала шмат форм работы, сарганізавала многа мерапрыемстваў, якія ўпісаліся ў вобраз нашага горада. Разам з працоўным калектывам будзем надалей прадаўжаць гэтую работу і выходзіць з новымі прапановамі, бо гэтага чакаюць жыхары горада. Да вялікіх нашых мерапрыемстваў хочам далучыць суправаджальныя імпрэзы, выставы, прэзентацыі, конкурсы, ці хэпенінгі і дзякуючы гэтаму рабіць іх яшчэ больш цікавымі для наведвальнікаў. Планую павялічыць колькасць пленэрных мерапрыемстваў і вярнуцца да камерных імпрэз на адкрытым паветры каля будынка дома культуры, дзе, напрыклад, падмацаваўшыся каўбаскамі, можна было б супольна паспяваць. З вялікімі пленэрнымі мерапрыемствамі хацела б я выйсці таксама далей і ладзіць іх у наваколлі Замкавай гары, ці на плошчы Яна Паўла II, дзе можна было б арганізаваць гістарычныя рэканструкцыі, а ў тым ліку рыцарскія турніры. Лозунг нашага горада «Бельск-Падляшскі спалучае людзей» будзем рэалізаваць дзеяннямі дома культуры ў карысць нашых жыхароў.

**— Як плануеце гэта рабіць?**


Фота Аляксея МАРОЗА

— Гісторыя Бельска доўгая і цікавая, спалучаная са шматнацыянальным насельніцтвам нашага горада. Падчас мерапрыемстваў будзем прэзентаваць яго шматкультурнасць у мінулым і ў цяперашні час. Будзем заахвочваць да ўдзелу ў мерапрыемствах прадстаўнікоў розных пакаленняў і выходзіць з новымі прапановамі да цэлых сем'яў, калі будуць маглі супольна добра адпачываць бабулі і ўнукі. Планую выйсці з новымі прапановамі таксама да моладзі, у якой многа энергіі. Добра было б, каб маладыя падчас нашых імпрэз маглі выкарыстаць энергію для супольнай гульні і супольнай карысці, напрыклад можна было б наладзіць канцэрты з музыкай рок, ці хіп-хоп. Мы павінны дастасоўвацца да патрабаванняў моладзі, якая штодзень карыстаецца новымі тэхналогіямі і мы павінны стварыць магчымасці карыстацца імі падчас супольных гульняў. Можна будзе арганізаваць конкурсы на фільмы, знятыя пры дапамозе мабільнікаў, ці ладзіць турніры з выкарыстаннем камп'ютарных гульняў. Бельск-Падляшскі наладзіў супрацоўніцтва з замежнымі гарадамі — у Беларусі, Расеі, Украіне, Балгарыі, Аўстрыі, Малдове і Румыніі. Наш дом культуры будзе выкарыстоўваць гэты факт, арганізуючы замежныя выезды бельскіх калектываў і будзе запрашаць замежныя калектывы ў Бельск, што павінна спрычыніцца да сяброўства калектываў.

**— Найбліжэй ад нас Беларусь.**

— Гарады-пабрацімы Бельска ў Рэспубліцы Беларусь гэта Кобрын, з якім супрацоўніцтва вельмі плённае, між іншым у музычнай і гістарычнай дзялянках, а таксама Светлагорск, з якім было наладжана супрацоўніцтва ў галіне спорту. Мы гэтае супрацоўніцтва будзем разгортваць.

**— На высокім мастацкім узроўні дзейнічае тэатральны калектыў «Антракт», які Вы стварылі і з якім паспяхова займаецеся. Ці, будучы дырэктарам БДК, прадбачваеце працягваць гэтую работу?**

— «Антракт» гэта маё дзіцё, якому я прысвяціла 20 гадоў маёй працы і які нядаўна святкаваў юбілей. Я не пакіну яго членаў, аднак хацела б засярodзіцца на працы з фальклорнай групай «Антракта», з якой рыхтуем і паказваем беларускія абрады, прэзентуем нашы песні і танцы. Ужо чатыры гады я займаюся з тэатрам сеніёра «Рэтра», які выступае таксама супольна з «Антрактам». Я сказала членам тэатра «Рэтра», што надалей буду займацца з імі.

**— Будынак Бельскага дома культуры здаўна не быў грунтоўна рамантаваны. Які ёсць шанц атрымаць сродкі на рамонт і разбудову існуючага будынка або будову новага?**

— Ранейшыя спробы прыцягнуць вонкавыя сродкі на будову цэнтра культуры ў Бельску-Падляшскім канчаліся беспаспяхова. Нядаўна была падрыхтавана мясцовая праграма рэвіталізацыі, каб дапамагчы рэгіёнам горада, якія адстаюць ад іншых. У рамках гэтай праграмы, каб рэалізаваць культурную і адукацыйную мэты, прадугледжваецца рэвіталізацыя, перабудова і разбудова будынкаў Бельскага дома культуры і былога кіно «Зніч». На гэта прадбачваецца атрымаць праз пасрэдніцтва Маршалкоўскай управы ў Беластоку вонкавыя сродкі, да якіх трэба было б дакласці грошы з бюджэту горада і сродкі ад спонсараў. Калі б удалося рэалізаваць гэтыя планы, умовы дзейнасці нашага дома культуры сталі б вельмі добрымі і тады можна было б яшчэ пашырыць планы нашай працы.

**— Як плануеце арганізаваць супрацоўніцтва Бельскага дома культуры з белліцэем і «тройкай», вучні якіх вельмі актыўна прымаюць удзел у дзейнасці тэатральнага калектыву «Антракт», мастацкіх гурткоў і карыстаюцца шматлікімі прапановамі дома культуры?**

— Я планую запрашаць беларускія вакальныя калектывы нашых школ на выступленні падчас нашых мерапрыемстваў і заахвочваць іх да супрацоўніцтва з калектывамі з гарадоў-пабрацімаў. Думаю, што вучні будуць працягваць займацца ў нашых калектывах і прымаць удзел у занятках так актыўна, як дагэтуль. Будзем прапанаваць вучням белліцэя і «тройкі» таксама іншыя магчымасці супрацоўніцтва з домам культуры.

**— У БДК займаюцца і выступаюць хор «Васілёчкі», калектывы «Маланка» і «Куранты», рэпертуар якіх састаўляюць беларускія песні. Як бачыце супрацоўніцтва Бельскага дома культуры з беларускімі арганізацыямі?**

— Наш дом культуры дагэтуль супрацоўнічаў з беларускімі арганізацыямі — з БГКТ, Таварыствам беларускай культуры, Музеем малой айчыны ў Студзіводах, Звязам у карысць адукацыі і прамоцыі беларускай культуры «Шчыты» — і мы былі суарганізатарам супольных з імі мерапрыемстваў. Было таксама супрацоўніцтва з іншымі беларускімі арганізацыямі. Зараз у БДК працуе Пётр Вавульскі, які з'яўляецца адказным за супрацоўніцтва дома культуры з няўрадавымі арганізацыямі. Я хачу зрабіць стаўку на супрацоўніцтва з няўрадавымі арганізацыямі, у тым ліку з беларускімі. Планую пашырыць супрацоўніцтва з дамамі і асяродкамі культуры Бельскага і суседніх паветаў.

**— Дзякую за размову і жадаю поспехаў у працы на пасадзе дырэктара БДК.**

Гутарыў **Аляксей МАРОЗ**

# З Кнышына ў Кнышынскую пушчу

Падаюся супраць сонца — з Кнышына на ўсход. *Энцыклапедыя Вялікага Княства Літоўскага* пра Кнышын: „Заснаваны ў пачатку 16. стагоддзя як сяло ў Бельскім намесніцтве (старастве) канцлерам ВКЛ, старастам бельскім Мікалаем Радзівілам, які пабудаваў тут паляўнічы двор, у 1520 фундаваў касцёл. Пасля яго смерці Кнышын перайшоў да яго сына біскупа жамойцкага Мікалая Радзівіла. Той у 1528 падараваў Кнышын вялікаму князю Жыгімонту Аўгусту (перадача адбылася ў 1530 пасля смерці біскупа)”.

На гэтым можна і спыніцца, бо так папраўдзе нямнога вестак захавалася пра пачаткі мясцовасці. Можа калі нехта і пісаў нейкую ранейшую хроніку, але ў ходзе бурлівых мясцовых падзей агонь і вада найверагодней замянілі яе ў нейкае іншае звяно прыроднага кругавароту. Бо ж да паловы ІІ тысячагоддзя цывілізаванае жыццё тут праходзіла або пад глыбокай канспірацыяй, або яго і зусім не было. Была тут неспакойная, запалоханая тэрорам тэрыторыя. Крыжацкі летапісец Віганд з Марбурга пісаў м.інш., што ў 1346 годзе магістр Дузімер сабраў вялікае войска з камандарамі Кульмскай (Хелмінскай) і Паморскай зямель, з некаторымі французскімі і англійскімі паломнікамі — разам сорак тысяч выдатна ўзброеных мужоў — супраць літоўцаў-язычнікаў. Уступілі яны ў язычніцкую зямлю, дзе па загадзе Зігфрыда дэ Дандвелда высеклі язычнікаў абодвух палоў, а зямлю знішчожылі агнём. (...) У 1379 годзе брат Бернард Мансфельд цягам двух сутак поўнасцю апустошыў агнём Камянец. (...) У наступным годзе брат Куно са сваім войскам апустошыў чатыры паветы. (...) Восенню брат Тэадорых фон Эльнэр уварваўся ў Русь ды апустошыў Камянец і Бярэсце; пасля апустошыў раён Гародні і чатыры іншыя паветы...

Магчыма, што хроніка Віганда не надта дакладная, можа паблытаны ў ёй мясцовасці і даты, аднак важная сама сутнасць — грабежніцкія паходы „паломнікаў” з Захаду не дазвалялі спакойна жыць і не дазвалялі захоўваць мясцовую памяць. І яна ў нас надта маладая.

Чаму я згадваю пра лёс мясцовай памяці? Бо гісторыя, як нехта заўважыў, гэта сучасная палітыка працягнутая ў мінуўшчыну. А ў нас гэта часам бывае „wojna polsko-ruska pod flagą biało-czerwoną”. Вось аўтар манаграфіі пра Кнышын — „Knyszyn i ziemia knyszyńska” Генрык Стасевіч даказвае, што назва мясцовасці зусім не з усходнеславянскіх вытокаў, „bo znacznie starsze miejscowości o nazwie Knyszyn istniały koło Kielc i Poznania”, неяк не заўважаючы, што старэйшыя могуць быць толькі захаваныя гістарычныя згадкі пра іх. Прыгадаю, што традыцыйна мяркуецца, што назва „нашага” Кнышына выводзіцца ад назвы ўсходнеславянскага кулінарнага вырабу — кныша. Пра Кнышын каля Кельцаў *Слоўнік Каралеўства Польскага*: „Knyszyn, Knissin, Knyschino, wieś, pow. pińczowski. Michał, syn Piotra z K., kanon. krak. wspominany często w dok. z drugiej połowy XIV w. Długosz wspomina tę wieś w opisie par. Sancygniów”. Калі б Длугаш жыў у, напрыклад, Вадзілаўцы, пэўна згадваў бы толькі пра „наш” Кнышын... Пра чарговую мясцовасць: „Knyszyn, wieś, pow. poznański, stacja kol. żel. w Poznaniu o 18 kil. Pod wsią wykopano złoty starożytny pierścień z głową wyrytą i posłano do muzeum berlińskiego”.

Да ўсяго гэтага можна яшчэ дадаць, што падобныя тапонімы ёсць у Даніі і Сканіі, што на поўдні Швецыі, ды развіць спадара Стасевіча думку да таго, што тапонім Кнышын скандынаўскага паходжання, што ў некаторых гісторыкаў нават цяпер моднае. А нават цалкам верагоднае, калі б тапонім паходзіў ад слова „кныш”; Зыгмунт Глогер: „Knysz, pierog okrągły, niewielki, z wzniesionym brzegiem, na środku cebulą smażoną wyłożony. Karłowicz przypuszcza, że wyraz ten pochodzi z niemieckiej nazwy bułeczki królewieckiej knist i słowa knischen, gnieść, miesić rozczynę”. А Каралевец не за гарамі ад Скандынавіі...

Апошнюю думку можна развіць яшчэ далей, бо ў сівую даўніну мабыць было нешта такое, як шлях „з варагаў у грэкі”, што пралягаў з тагачаснага цывілізацыйнага цэнтра на Блізкім Усходзе да „крэсаў” на захадзе Еўропы; гэтаксама як „шаўковы шлях” да „крэсаў” на ўсходзе Азіі. І той еўрапейскі шлях быў надта шырокі — ахоплівае не толькі Ноўгарад-Вялікі з Псковам, але мабыць таксама Дзвінск з Полацкам, Драгічын з Клюковічамі ды і Познань з Кельцамі і Каралеўцам.

Да гэтага варта заўважыць, што адным з першых хрысціянскіх мучанікаў у Кіеве быў Фёдар Вараг. Інтэрнетны праваслаўны рэсурс „Святые мученики Феодор Варяг и сын его Иоанн жили в Киеве в X столетии, когда варяги, предки нынешних шведов и норвежцев, принимали особенно деятельное участие в государственной и военной жизни Руси”. І далей: „Возможно, впрочем, что подвиг святых киевских варягов-мучеников имел место летом 983 года, когда волна языческой реакции прокатилась не только по Руси, но и по всему славяно-германскому миру. Против Христа



Каплічка каля Вадзілаўкі



Касцёл у Чорнай-Весі

и Церкви почти одновременно восстали язычники в Дании, Германии, прибалтийских славянских княжествах, и всюду волнения сопровождались разрушением храмов, убийством духовенства и христиан-исповедников. Владимир в тот год ходил в поход на литовское племя ятвягов и одержал над ними победу. В ознаменование этой победы киевские жрецы и решили снова устроить кровавое жертвоприношение”. Гэта той самы вялікі князь Уладзімір, які ў 978 годзе разрушыў Полацкае княства і захапіў Рагнеду, а пяць гадоў пазней, чатыры стагоддзі да „паломніцтваў” Бернарда, Зігфрыда ці Тэадорыха, мог гэтаксама завітаць і на нашы землі...

Такім чынам мясцовая зямля ўвесь час траціла сваіх гаспадароў і траціла сваю гісторыю, не захоўваючы пра яе багатых звестак, але прысвойваючы прынесеную тапанімію; яе захоплівалі новыя ўладары. Віганд згадвае пра літоўскага баяра Вайдэлена, які быў шэрым кардыналам у літоўскіх вярхах, больш вядомым пад прозвішчам Вайдылы. Ён пасняхова перасварыў вялікіх князёў, за што і сам скоранька расплаціўся жыццём. Але гэтая звестка была запісана мабыць аж у канцы XIV стагоддзя...

Летапісец: „Znaydował się na dworze Jagiełły niejakiś Woydyłło, człowiek podłego rodu, którego Olgierd dawniey, upatrzywszy w nim zdatne do posług dworskich przymioty, przeniósł z piekarni na urząd komornego, a potym podczaszym swoim uczynił. [...] Lecz jak pospolicie bywa, że wyniesiona darem losu krwi podłość, nieumie się w roztropnych użytku trzymać granicach, zapragnął Woydyło nierownego związku z domem Xiążęcym na okrasę lichoty rodowitey. Jagiełło nieporadziwszy się Kiejstuta, oddał w małżeństwo podczaszemu siostrę swoją...”. У пасаг Вайдыла атрымаў наваколле Кнышына і за адной з мясцовасцей захавалася, як мяркуюць некаторыя даследчыкі, назва Вадзілаўка ад ягонага імені. Была яна тамашнім грамадскім цэнтрам да часу, калі па загадзе каралевы Боны Аляксандр Хадкевіч заклаў у Кнышыне горад. А пасля сын Боны, Жыгімонт Аўгуст, амаль не ўстанавіў у Кнышыне сталіцы велізарнай дзяржавы...

Зараз Вадзілаўка з’яўляецца невялікай, раскіданай па хутарах вёсачкай на ўсход ад Кнышына, якая мае сваю адметнасць. Менавіта па дарогах у яе вобрубе стаяць адмысловыя драўляныя слупавыя каплічкі. Мабыць, у нядаўнім мінулым жыў там таленавіты народны ўмелец, які выконваў такія арыгінальныя абярэгі.

Падаюся далей на ўсход, цераз пушчу, цераз Пeравалку, што ў балоцістым пачатку Чорнай і Бярозаўкі. І пакідаю пушчу ў мясцовасці Ляцкая Буда. Зыгмунт Глогер пісаў: „Budnik. Tak nazywano na Litwie i Rusi Mazurów, osiadających tam na prawie czynszowem wśród lasów. Zwykle osadnicy ci, tak z włościan jak z zagrodowej szlachty pochodzący, wziąwszy grunta w lasach obszernych, zaczynali od postawienia sobie „budy” na mieszkanie (od czego poszła ich nazwa), potem krudowali czyli karczowali na pole oznaczone części lasu i zajmowali się następnie wypalaniem popiołów, smoły, terpentyny, potażu, węgli kowalskich, wyrobem klepek, gątów, dranic, desek. Budnicy polscy przez kilka wieków napływali licznie w pustkowia Litwy i Rusi i przyczynili się bardzo do rozszerzenia rolnictwa w dzielnicach leśnych, ale osiadając małemi gromadkami, wsiąkali w ludność miejscową, przyjmując jej ubiór i mowę”. Як у Будах, Францкавай Будзе ці Прыбудках; тапонім Ляцкая Буда дапаўняе разважанні знакамітага этнографа, ураджэнца падтыкоцінскага Яжэва.

А не надта далёка ад Ляцкай Буды Чорная-Весь-Касцельная. Вёска, якая зараз славіцца захоўваннем рукадзельнай ганчарскай традыцыі, мае за сабою цікавую гісторыю. Яна ў некаторым сэнсе нагадвае славуты Клондайк, што на мяжы Канады з Аляскай, толькі тут галоўным рухавіком бізнесу не было золата, адно звычайная гліна.

*Памятная кніжка Гродзенскай губерні* за 1869 год паведамляла: „Какъ ни слаба промышленность в Северо-Западномъ Крае, тем не менее Гродненская губернія представляетъ въ этомъ отношеніи много исключений. Шерстяное производство фабрикъ ея — Хорощанской, Супрасльской, Михаловской, Альбертинской и др. получило известность на самыхъ значительныхъ рынкахъ Имперіи. Москва, Петербургъ, Варшава, Рига, Вильна, Кіев, Бердычевъ, Харковъ, Полтава и все смежные пункты уже достаточно ознакомлены съ шерстяными изделіями Гродненскихъ фабрикъ. Обработка хлебныхъ продуктовъ на 118 заводахъ винокуренныхъ, а также на многихъ пивоваренныхъ и медоваренныхъ происходитъ съ весьма значительнымъ успехомъ. [...] Гродненское и белостокское пиво, по мненію знатоковъ, мало въ чемъ уступаетъ самому баварскому. [...] Холстъ, выделываемый въ Бельскомъ уезде, по своей отличной доброте и тонкости, можетъ выдержать конкуренцію съ хорошими полотнами въ некоторыхъ Великороссійскихъ губерніяхъ”.

Далей тая ж кніжка паведамляе, што кранаючы тэхнічную вытворчасць у Гродзенскай губерні агулам, трэба сказаць пра адну галіну прамысловасці, якая там здаўна існуе. Гэта апрацоўка гліны і выраб з яе чарапіцы. У Гродзенскім, Сакольскім і Беластоцкім уездах чарапіцай пакрыты ўсе лепшыя будынкі. І гэта ўсё вырабы мясцовых рамеснікаў. Такі дах незалежны ад атмасферных уплываў і эканоміць драўніну. А яшчэ ж трэба згадаць і пра ашчаднасць саломы, якая тут, беручы пад увагу недастатковасць сенажацей, складае асноўны кампанент корму рагатай жывёлы. Ад недастатка кармоў часта падае рагатая жывёла, таму прымяненне чарапіцы з’яўляецца самым практычным спосабам пазбегнуць турбот у сельскай гаспадарцы, — паведамляе *Кніжка*. Названыя раней уезды багатыя глінай, што спрыяе вытворчасці чарапіцы. „Достоверно известно только то, что все дома въ Белостоке, все фабрики въ Супрасле, Хороще и др. местахъ покрыты черепицею исключительно местного изделія, а черепицы-то здесь пошло немало”.

*Памятная кніжка Гродзенскай губерні* за 1869 года паведамляе далей: „Старики говорятъ, что этому промыслу въ Черной-Веси будетъ около 50 летъ и указываютъ здесь на одного гончара по имени Антона Пеховскаго, какъ на основателя этого искусства и общаго ихъ руководителя въ этомъ деле. Говорятъ, что до него никто изъ жителей Черной-Веси не зналъ, что здесь есть хорошая глина и какъ ею можно пользоваться. Но вотъ приходитъ изъ Кнышина въ нашу деревню этотъ Пеховскій, поселяется здесь, начинаетъ раскапывать землю, добывать глину и делать изъ нея посуду, черепицу и разные игрушки. Какъ бы то ни было, отъ этого Пеховскаго и распространилось черепичное ремесло по свей Черной-Веси. Вотъ мужички-то наши, присмотревшись къ искусству Пеховскаго, начали и сами делать черепицу, да свозить ея на фабрики — въ Супрасль, Хорощу, Тополи, Новоселки и др. места. Многие чрезъ это и обогатились. Современемъ о Черной-Веси прослышали въ самыхъ отдаленныхъ окрестностяхъ и начали приходить сюда на промыслъ крестьяне изъ уездовъ Бельскаго и Брестскаго и отставные солдаты”.

Керамічная традыцыя захавалася па сённяшні ў Чорнай-Весі-Касцельнай. І, як здаецца, гэтую традыцыю трымае там гістарычны род Пяхоўскіх, які каля двухсот гадоў таму завандраваў туды з Кнышына. Як раней вандравалі і асталіся буднікі, як вандравалі і пакідалі свае здабыткі варагі. Пра місіянераў і „паломнікаў” была мова раней...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Засталіся адно ўспаміны (21)

З Дабрывады пачыналася мая прыгода з кіношнікамі. Тут пазнаёміўся з Алікам Чарнянінам і Валодзем Скепкам — брыгадай кінаперасоўкі «BR-9». На сем гадоў звязаў я з імі свой лёс. Хлопцы аказаліся сталымі мужчынамі — «як да выпіткі, так да выбіткі».

З першага дня я рашыў станоўча ставіцца да службовых абавязкаў, перш за ўсё да дысцыпліны працы. Канец выпіўкам. Праязджаючы аднойчы праз Кляшчэлі ў рыначны панядзелак, зайшоў я ў ГСаўскую «гасподу». Спаткаў там сяброў. Запрасілі на піва, выпілі па два шкляныя куфлі. Затым падаліся мы ў Малінніκі. Калі зайшоў я ў канцылярыю, каб дамовіцца наконт ранішніка, кіраўнік школы Сцяпан Бурыла папракнуў мяне:

— A w jakim to stanie, panie kierowniku, do pracy się przychodzi?

Думаў, што з ног звалюся. Сорам было перад настаўнікамі. Такі канфуз... А ў кіношнікаў выпіўка была «нармалькай» і то не толькі ў нашай брыгадзе. У шматлікіх сёлах у нядзелю або ў прыхадское свята — як на Казанскую ў Курашаве — хлопцы ў машыну прыносілі віно, гарэлку, закуску. Пачынаўся «баль». Адно шафёр Скепка трымаўся прынцыпу цвярозасці і па кілішку не сядаў за руль. Затым пытаўся: «Пераязджаем сёння, ці застаемся начаваць?». За гэта я яго цаніў.

Цяжка было ў суровую зіму 1962/1963 года. Нерасчышчаныя дарогі, снежныя гурбы не дазвалялі дабрацца ў кожнае сяло па маршруце. Але ўсё прайшло з зімой халоднай. Прабудзілася вясна і пачалося новае жыццё.


На здымку: Раман Сідарук з жонкаю Ганнай

І здарылася штосьці нечаканае, што не павінна ніколі ў маім жыцці здарыцца. 7 жніўня 1963 г. У Старым Корніне царкоўны фэст. Калісьці кузаўскія бабулькі басанож у Корніна падаваліся на пілігрымку. Нам 7 жніўня 1963 г. выпала па маршруце Дабрывада. Я рады быў, што пры свяце наведаю дзядзьку Рамана ды павіншую з днём Ангела цётку Ганну. І вось такая асечка. Паколькі не арганізавалі ранішніка ў Дабрывадзе, дык я падаўся ў Чаромху. На чыгуначнай станцыі сустрэў брыгаду кінаперасоўкі «BR-18». Падаваліся ў Зубачы. У іхнім рэпертуары была кінакарціна «Кшыжацы». Каб павысіць прыбытак з білетаў, дык мы дамовіліся з кіраўніком клуба «Калеяж» Мікалаем Гарадкевічам і арганізавалі ўім дадатковы сеанс. Я застаўся ў Чаромсе з калегамі, у Дабрываду не паехаў. Напісаў картачку шафёру Уладку Скепку: «Odegrajcie beze mnie film. Jutro wypijemy flaszkę». Ключы ад аўтамабіля і касы перадаў праз Веська Дземіяновіча, дабрывадскага настаўніка. Ранішнім цягніком наступнага дня падаўся ў Дабрываду, выправіў дакументацыю. Усё здавалася быць у парадку. 24 жніўня з'ехалі на базу, затым падаліся на тыднёвы адпачынак.

30 верасня я падаўся ў касу за палучкай. Касірка сказала: «Зарплата затрымана. Высвятліць справу трэба ў Аддзеле кіно». Не паспеў я пераступіць парог, як шэфова накінулася на мяне з кіпцюрамі.

— Tego się po panu nie spodziewałam,

— усхваляваным голасам і махаючы рукамі крычала пані Гедрайць.

— O co chodzi, pani inspektor?....

— W kadrach powiedzą...

Кіраўніка Аддзела кадраў не было. Пані Галена Шчыпінская абкінула мяне няветлівым зрокам, затым перадала пісульку: «Вызваленне ад працы...».

(працяг будзе)

Уладзімір СІДАРУК

## Бельская дэмаграфія

Вясковая гміна Бельск-Падляшскі займае плошчу ў 430 квадратных кіламетраў — гэта адна трэцяя частка Бельскага павета. Сельскагаспадарчыя ўгоддзі займаюць 74% усяе тэрыторыі і лясы 19%. Зараз тут пражывае 6839 чалавек. На 100 жанчын прыпадае столькі сама мужчын. Шчыльнасць насельніцтва невялікая, бо ўсяго толькі 16 чалавек на квадратны кіламетр. Варта адзначыць, што два гады таму Бельская вясковая гміна налічвала 6966 чалавек. Як бачым, лік вясковага насельніцтва памяншаецца.

Найбольшыя вёскі ў гміне гэта: Відава – яна налічвае 550 жыхароў, Аўгустова – 530, Пілікі – 280, Кнарыды – 260, Плёскі – 235, Лубін-Касцельны – 230, Дубяжын – 210, Праневічы – 200, Кнаразы – 195, Парцава – 180, Гацькі – 175, Грабавец – 170, Крывая, Райск і Галады – па 150. Да найменшых вёсачак належаць: Арлянка – тут жыве ўсяго 10 чалавек, Белая – 16, Яцэвічы – 20 ды Падбелле і Ступнікі – па 22 жыхары,

Сёлета «залатое вяселле» ў вясельным доме «Івонка» згулялі 42 шлюбныя пары. Атрымалі яны медалі «За шматгадовае шлюбнае сужыццё» (за 50 гадоў супольнага жыцця), прысвоеныя ім прэзідэнтам РП. **(яц)**




**https://вейшнорыя.бел**

У Беларусі ў сярэдзіне верасня праходзілі сумесныя вайсковыя вучэнні падраздзяленняў беларускіх і расійскіх узброеных сіл „Захад-2017”. Шчыра кажучы, такія вучэнні праходзілі рэгулярна раней і асаблівага рэзанансу яны не выклікалі. Аднак пасля падзей на Украіне, калі так званыя зялёныя чалавечкі, а насамрэч расійскія вайскоўцы, адабралі ў гэтай краіны Крым, а таксама падтрымліваюць канфлікт на Данбасе, прыезд іх у вялікай колькасці ў Беларусь выклікае пэўны ажыятаж. Многія патрыятычна настроеныя беларусы не выключаюць, што пасля вучэнняў расійскія вайскоўцы застануцца на месцы вучэбнай дыслакацыі, іншыя, значна менш патрыятычныя, кажуць, што нічога такога не адбудзецца і ўсё хуценька вернецца на свае звычайныя месцы. Ісціна, відома, недзе пасярэдзіне. Звжаючы на таямнічасць, якая суправаджае ўсе беларуска-расійскія вайсковыя дачыненні, адсутнасць адназначнага адказу аб колькасці расійскіх салдат, што прыбылі ў Беларусь, верагодна, што асноўная мэта вучэнняў — прапрацоўка наступальнай аперацыі з папярэднім дэзінфармаваннем патэнцыйнага праціўніка. Зразумела, што такая аперацыя не адбудзецца падчас вучэнняў і наўрад ці ў хуткім часе пасля. Аднак патрэбны досвед будзе атрыманы, і пры нагодзе Крэмль можа ім скарыстацца, і беларускіх ваякаў пры гэтым ён наўрад ці запытаецца.

Згодна з легендай вучэнняў, на паўночным захадзе Беларусі ўтваралася краіна Вейшнорыя, якая пры падтрымцы размешчаных на тэрыторыі Латвіі, Літвы і Польшчы Весбарыі і Лубеніі імкнецца распаўсюдзіць сваю ўладу на астатнюю, большую тэрыторыю беларускай краіны. У сваю чаргу ўзброеныя сілы так званай саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі процістаяць „планам” захопнікаў. Фінал „вайны” зразумелы — абаронцы пераможуць Вейшнорыю. Праўда, зважаючы на тое, як гэтая краіна „захапіла” думкі многіх беларусаў, да перамогі саюзнымі войскамі мары аб Вейшнорыі, як альтэрнатыве сучаснаму беларускаму парадку, будзе вельмі далёка.

Напярэдадні вучэнняў, як вынік зацікаўлення Вейшнорыяй, у інтэрнэце з'явіўся сайт, які называецца „Вейшнорыя — краіна мары” і месціцца па адрасе **https://вейшнорыя.бел**. „Вейшнорыя — гэта краіна без Лукашэнкі, без расійскіх войскаў, краіна, што сябруе з заходнімі суседзямі. Але пры гэтым мы ніколі не будзем бамбіць Мінск. Ніколі не з'явіцца „Жлобінскі кацёл”, ні ў адзін з аграгарадкоў не прыйдзе „груз 200”, — распавядаецца ў твіце так званага МЗС Вейшнорыі. Дарэчы, твіты аб Вейшнорыі ёсць стужкай навін „Краіны мары” і месціцца з левага боку цэлага выяўлення.

Пасярэдзіне знаходзіцца інфармацыя аб колькасці грамадзян Вейшнорыі, гэта значыць пра тых, хто такімі стаў, аўтарызаваўшы сябе на даным сайце праз сацыяльную сетку. На момант напісання артыкула ў свеце было 7890 вейшнорскіх грамадзян, што адпавядае сярэдняму па насельніцтве мястэчку Беларусі.

Якая краіна можа існаваць без рынку? Ніякая, і „Краіна мары” тут не выключэнне. З правага боку выяўлення знаходзіцца раздзел „Рынак Вейшнорыі”, праз які кожны, хто жадае, можа набыць для сябе вокладку на вейшнорскі пашпарт, „футболку вейшнорца” альбо магнiцік з вейшнорскімі краявідамі ці помнікамі.

Аляксандр ЯКІМЮК

## Дата з Календара

Мастак баталіст з Гродна

## 220 гадоў з дня нараджэння Януара Сухадольскага

Вядомы жывапісец-баталіст, актыўны ўдзельнік паўстання 1830 года Януар Сухадольскі нарадзіўся 19 верасня 1797 г. у Гродне. Быў братам знакамітага паэта, аўтара паўстанцкіх песень Райнольда Сухадольскага. Род Сухадольскіх валодаў мясцовасцю Рагозніца (сучасны Мастоўскі раён). Сядзіба была збудаваная там у 1791 годзе паводле фундацыі смаленскага кашталяна Антона Сухадольскага, дабудоўвалася ў XIX стагоддзі. У сядзібе некалі гасцяваў кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Антон Сухадольскі быў патрыётам ВКЛ і бараніў яго інтарэсы на чатырохгадовым сойме, куды быў абраны. Сын Антона Сухадольскага, Ян, таксама быў палітыкам, пазней прымаў удзел у вызвольным паўстанні Касцюшкі. Менавіта ў гэтай сядзібе гадаваліся ўнукі Антона Сухадольскага Януар і Райнольд. Вядома, што Райнольд вучыўся ў знакамітай Свіслацкай гімназіі. Загінуў ён пры абароне Варшавы. Януар пражыў да 1875 г. Яшчэ два браты трапілі ў расейскі палон — Яцэк і Валянцін. Яцэк вярнуўся дамоў, але страціў розум. А вось Валянцін уцёк, рэшту жыцця пражыў у беднасці ў Парыжы.

Першыя ўрокі жывапісу Януар браў у калекцыянера і мастака Антона Брадоўскага. Адукацыю атрымаў у легендарнай Свіслацкай гімназіі. У 1810 годзе паступіў у корпус кадэтаў Школы артылерыі і ваенных інжынераў у Варшаве, якая месцілася ў Варшаўскім арсенале. У гэтай школе навучаўся малюнку і тапаграфіі. Потым служыў у войску Царства Польскага, у 1823 годзе стаў палявым ад'ютантам камандзіра палка грэнадзёраў Гвардыі Каралеўскай генерала Вінцэнта Красінскага. Потым атрымаў чын капітана. Удзельнічаў у расійска-іранскай вайне 1826-1828 гадоў, знаходзіўся пры штабе фельдмаршала Івана Паскевіча, на заказ якога стварыў цыкл прысвечаных кампаніі карцін.

Калі ўспыхнула лістападаўскае паўстанне 1830 года, узяў у ім актыўны ўдзел. Ваяваў пад Ваўрам, Грохавам, Іганямі. Паралельна як мастак рабіў мастацкія накіды і эскізы, партрэтаваў баявых паплечнікаў. Пасля паразы паўстання эміграваў, жыў у Рыме, атрымаў мастацкую стыпендыю, у 1832-1833 гадах вучыўся там у Французскай акадэміі пры майстэрні Гарацыя Вернье. Стварыў цыкл твораў на арабскую тэматыку. У 1837 годзе вярнуўся ў Варшаву. Бываў у Кракаве, Парыжы, купіў у 1848 годзе маёнтак у Бойме.

Пасля амністыі Сухадольскі вярнуўся на радзіму, дзе жыла сям'я. Па запрашэнні імператара Мікалая I паехаў у Пецярбург, дзе атрымаў заказ на цыкл карцін пра батальныя сцэны расійска-французскай вайны 1812 года. У 1860 годзе быў адным з заснавальнікаў Таварыства падтрымкі прыгожых мастацтваў у Варшаве, пазней Музея прыгожых мастацтваў.

Сухадольскі здабыў папулярнасць як аўтар рамантычных карцін патрыятычнага характару, увайшоў у гісторыю як майстар батальных сцэн. Мастак выключна перадаваў на палатне коней, як у агульных сцэнах, так і ў асобным выяўленні. Бальшыня карцін захоўваецца ў Польшчы, частка карцін экспануецца ў Гомельскім краязнаўчым музеі (найперш творы, зробленыя на заказ фельдмаршала Паскевіча).

Сын Януара Сухадольскага быў зняволены пасля паразы паўстання 1863 года. Маёнтак у Бойме быў зруйнаваны. Некаторыя крыніцы падаюць, што Сухадольскі памёр ва Украіне. Паводле іншых звестак адышоў ён у іншы свет 20 сакавіка 1875 г. у Бойме. Гэтая мясцовасць ляжыць у гміне Котунь Сядлецкага павета Мазавецкага ваяводства Польшчы.

Падрыхтаваў
Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

1 ☞ працяг

# Мне падабаецца быць настаўніцай беларускай мовы!

**ГК: — Напачатку Ты сказала, што некалькі асоб выпісаліся з урокаў?**
**АВ:** — Маем новы закон, які ўступіў у сілу 1 верасня 2017 года. Ён быў падпісаны 30 жніўня і абавязвае з 1 верасня. У ім выразна гаворыцца што да 29 верасня можна адмовіцца ад навучання. Можа ў іншых школах гэтага не будзе так відаць, а ў нас ужо відаць. Гэта датычыць чацвёртых класаў, дзе было вельмі многа дзяцей. Многія з іх прыйшлі ў „чацвёрку” дзякуючы дадатковым балам, якія можна набраць, калі нехта запісаўся на беларускую мову. Яны, проста не хацелі вучыцца ў сваім раёне. Такім спосабам прыйшлі, а цяпер адыходзяць. Але нават тыя дзеці, якіх бацькі выпісалі ад мяне ў гэтым годзе, як бягуць па калідоры, заўсёды крычаць „Добры дзень”!

**ГК: — Цягам гэтых 20-ці гадоў былі і іншыя балючыя моманты. Памятаю, калі Табе не дазволілі працаваць у Гімназіі №7, гэта быў вялікі боль для Цябе, вучняў і бацькоў. Што дапамагае перанесці такія паразы?**
**АВ:** — Напэўна дапамагаюць сябры — гэта адно. Важна, каб мець такую сям’ю, дзе муж — гэта перш за ўсё твой вялікі сябра. Мой муж глядзіць у гэтым самым кірунку што і я, нам тое самае падабаецца. Праўда, пра гэта не гаворыцца ўголас, але я маю вялікую падтрымку з боку мужа. Няраз, калі нехта прыязджае з Беларусі, то чую такія словы: „О, вы будзеце жонка Ваўранюка, ён так вас расхвальваў”. А я думаю: „Чаму ён ніколі мне гэтага не сказаў”.
З другога боку, вельмі перажываю яго дасягненні і паразы. Гэта вельмі важна. Або, калі чую ад дарослага сына, які зарабляе вялікія грошы, а я пры ім *такая галота*, то ён кажа мне: „Мама, калі б не ты, то ў Беластоку не было б беларускай мовы”. Як чуеш такое ад свайго дзіцяці, пра ўсё дрэннае забываеш.
А як звольнілі з гімназіі, то тады я была намнога маладзейшая. Маладым людзям лягчэй перажываць усякія паразы. А цяпер, у сваю чаргу, набіраю такой дыстанцыі.
Апрача таго навучылася цаніць тое, што ўмею рабіць, але бачу таксама свае недахопы. Напрыклад, ніколі не буду дырэктарам ніякай школы. Бо з маім характарам не магу быць дырэктарам, не падыходжу. А быць настаўніцай мне вельмі падабаецца.
Трэба забывацца на ўсё, што дрэннае, хаця цяжка мне гэта прыходзіць.

**ГК: — Значыць, у хаце Коля дырэктар?**
**АВ**: — Не, мы хіба так разам дырэктаруем. Думаю, што калі б я не мела такога мужа, напэўна не гаварыла б па-беларуску і не было б у мяне беларускамоўных дзяцей.



Аліна Ваўранюк і «Падляшскія хронікі» у Сынкаўцах, фот. Г.Кандрацюк

**ГК: — Мяне заўсёды ўражваюць густоўныя рэквізіты — кашулькі, ільняныя сумкі, паштоўкі з вышыванкай. Чаму прывязваеш такую ролю да эстэтыкі, ці яна важна?**
**АВ**: — Настаўнік не толькі вучыць ведаў. Настаўнік таксама выхоўвае. Нават калі ён не вядзе класа, то ён выхоўвае. Я сама ўмею сказаць брыдкае слова, але ніколі сабе не дазваляю на некарэктныя паводзіны перад дзяцьмі. Стараюся ім гаварыць пра дабро, пра справядлівасць, пра тое, што трэба прытрымлівацца законаў. А калі ўжо вяду мастацкія заняткі, як тэатральны гурток, там інакш нельга. Мастацтва і эстэтыка гэта таксама сэрца.

**ГК: — Ты адна з такіх настаўніц, у якой самая вялікая колькасць лаўрэатаў па прадметных конкурсах.**
**АВ:** — Цяжка ўсіх палічыць, але некаторыя з іх былі некалькі разоў лаўрэатамі конкурсу па беларускай мове. Але гэта не было адразу. На ўсё прыходзіць свой час. Спачатку мне здавалася, што прадметныя конкурсы, яны не такія ўжо важныя. Лічу, што ў навучанні нацыянальнай меншасці самае важнае — гэта будаваць тоеснасць. Трэба сказаць, што да нас прыходзілі выбраныя дзеці, бацькі вельмі свядома пасылалі дзяцей на беларускую мову. Ну і дзеці разумныя! Хто папсаваў бы Колю Здрайкоўскага, які на прадметных конкурсах набірае максімум балаў. Дзеці ўмеюць мабілізавацца, не з’ядае іх стрэс.
У свой час вялікую радасць давала мне падрыхтоўка да дэкламатарскага конкурсу. У мяне былі такія дзеці, пра якіх не скажаш інакш як *zwierzęta sceniczne*.

**ГК: — У школах дзеці вучацца па Тваіх падручніках. Якое гэта пачуццё?**
**АВ:** — Ну, супер, вельмі файна. Але калісь мне было вельмі прыемна, калі я працавала з падручнікам сваёй мамы (Раісы Бурылы — Г.К.). Вельмі любіла *Літарынку*, гэта было такое пачуццё гонару. У маім *Лемантары* шмат з *Літарынкі*.

**ГК: — Мама для Цябе ўзор жанчыны?**
**АВ:** — Як настаўніца — так. А на каго я загледжана? Гэта, так сказаць, на некалькі асоб. Я спалучыла б тры асобы: Бажэну Шрэдэр, Алу Орса-Рамана і Данусю Курань. Гэта вельмі моцныя жанчыны, цвёрдыя, якія не здаюцца.

**ГК: — Якія пажаданні Аліна Ваўранюк хацела б накіраваць да сябе самой з нагоды слаўнага юбілею?**
**АВ**: — Каб яшчэ хапіла сілы на чарговыя гады. Каб нарэшце адчуваць сябе свабоднай, бо я ўсё больш адчуваю, што многае ў нашай краіне мяняецца на горшае.

**ГК: — Жадаю многа сілы і здароўя, і каб у Тваім жыцці мянялася ўсё на лепшае. Дзякую таксама за дваццаць гадоў плённага і якаснага супрацоўніцтва.**

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне – беларускую пагаворку.

1. орган слыху = 5 _ 3 _ 12 _ 13 _;
2. партнёрка мужчыны = 7 _ 8 _ 9 __ 21 _ 34 _ 1 _ 2 _;
3. даўнейшае мужчынскае адзенне, у каторым... пан = 25 _ 26 _ 30 _ 29 _ 28 _;
4. вялікае памяшканне для масавых мерапрыемстваў = 4 _ 15 _ 14 _ 22 _;
5. найвышэйшы пункт нябеснай сферы = 17 _ 11 _ 10 _ 6 _ 16 _;
6. раствор смол у спірце для прыдання прадметам бляску, які можна схаваць у... кулак = 31 _ 24 _ 23 _;
7. імя прэзідэнтаў Валэнсы і Качынскага = 19 _ 20 _ 27 _;
8. хатняе збудаванне, у якім разводзяць агонь = 18 _ 32 _ 33 _.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | 1 | 2 |
| | | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | | 18 | 19 | 20 | 21 |
| | | | | | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| | | | | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 36 нумара**

Нерв, „Паўлінка”, ужытак, лоб, сыч, зяць, імяніны, Дэлі, знаць, пляшка, малако, клёкат, два.

Рашэнне: **Жураўлі ляцяць высока — зіма яшчэ далёка.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм’янюк** з Бельска-Падляшскага і **Яну Міхалюку** з Чыжоў.

## 24.09 — 30.09

**(22.03. — 20.04.)** Удасца табе падлагодзіць сямейныя праблемы, паправіць становішча ў прафесіі і выгляд жылля. Самотны Баран можа пашукаць новага аб’екта пачуццяў. Калі прыйшоў на свет у апошніх днях знака, яго пачуццёвы і ўвесь свет стане на галаве! На працы акажацца, што плёткі пра звальненні былі няпраўдай. Але не кажы нічога, што трэба захаваць для сябе.
**(21.04. — 21.05.)** Здароўя і формы дастаткова. Разгрузіся ў добрай вясёлай кампаніі. Добры быў бы таксама вераснёвы водпуск. Добры час для бізнесменаў — павінны быць прыбыткі, можна нават рушыць з бізнесам за мяжу. Толькі звяртай увагу на несумленных пасрэднікаў. 24-27.09. не дай сябе ўцягнуць у цэнтр канфлікту. Дыету ўзбагаці вітамінам К.
**(22.05. — 22.06.)** Будзеш адважны і самаўпэўнены, твае рашэнні будуць смелыя і трапныя. Расквітнеюць узаемныя пачуцці. Хаця 27-29.09. могуць быць для цябе цяжарам сямейныя абавязкі, варта раздзяліць іх паміж хатнімі. Калі ты на новай працы, не паказвай, што «стаіш пад сцяной» і апынуўся ў бязвыхадным становішчы — яшчэ возьмуць і заплацяць табе менш чым абяцалі? Можа лепш не паліць мастоў на папярэдняй рабоце?..
**(23.06. — 23.07.)** Выканаеш свае планы, усё выдатна сарганізуеш. Трымайся спераду падзей, не адставай, не хавайся. У пары гаварыце, бо 29-30.09. тыя недамоўкі могуць выклікаць катастрофу, асабліва ў тваёй уяве. Самотны Рак, не ўваходзь у эмацыянальныя лады аснаваны выключна на сексе! Час добры для падарожжаў, курсаў, дамоў аб працы. Калі будзеш дамаўляцца аб рабоце, патрабуй «залічку».
**(24.07. — 23.08.)** Дзейнічай з размахам, але аглядайся. Будзеш мець уплывовых знаёмых, якія цябе падтрымаюць у тваіх задумах. Леў з трэцяй дэкады можа купляць шлюбны пярсцёнак! 24-26.09. не згубі важных дакументаў. Да 27.09. вельмі добра справішся і ўдала павядзеш усе справы. Калі шукаў працу, атрымаеш пазітыўны адказ. Маючы фірму, можаш разлічваць на мноства карысных і багатых прапаноў. Можаш не ведаць, куды дзяваць грошы!
**(24.08. — 23.09.)** Моц і ўпэўненасць, пераясеш нават горы! У пары — можа больш чуласці? Новыя знаёмствы, зусім не платанічныя. Але не разлічвай на працяг і сувязь на даўжэй, каб не расчаравацца. 24-27.09. будзеш нервовы, не скачы нікому да вачэй, асабліва старэйшай радні — яны дадуць табе добрыя парады. І нага з газу, асабліва 24-27.09.!
**(24.09. — 23.10.)** Удала, з поспехамі, прытым міла. Усё прыносіць табе ўдачы і папулярнасць. 24-26.09. будзеш прымушаны разлічыцца з нявыгаднага абяцання. Лепш пільнуй касы, лічы ўплывы і выдаткі, каб не скончыць месяца з дзірай у бюджэце. Зайдзі да кардыёлага, гастраэнтаролага, уролага, дантыста, не аб’ядайся.
**(24.10. — 22.11.)** Будзеш надалей паспяховы і рухавы, ахвотны да новых выклікаў. Не адкладвай важных спраў. 24-26.09. будзеш вымушаны прыняць цяжкае рашэнне. 24-27.09. хтосьці будзе да цябе чапляцца, папракаць у памылках, спрачацца. У пары не распытвай пра мінулае каханай асобы. Зважай на спакусы, асабліва калі ты несвабодны. Скрыты раман выявіцца, гэта паграsevere асабліва 29-30.09, але, каб апамятацца, можа быць запозна! Зробленыя грошы кладзі ў банк. Дбай аб лёгкія і бронхі.
**(23.11. — 22.12.)** Паглынуць цябе праца і саперніцтва ды дадатковыя абавязкі. Той асабісты шарм будзе дзейнічаць у кампанейскім і прафесійным плане. Схоча скантактавацца з табою тваё былое каханне, але калі не хочаш праблем, не адказвай на званкі і мейлы. Схочаш даказаць, што ніхто цябе не выведзе з раўнавагі, але з такім стаўленнем чакае цябе шмат канфліктаў. Будзеш таксама цвёрдым гульцом у прафесіі, але не давай загадаў шэфу! Хаця 24-26.09. трапіш на гульца не мякчэйшага за сябе! З-за гэтага ўрока ўсё ж не адмаўляйся са сваіх амбіцый!
**(23.12. — 20.01.)** Здзяйсняй свае мары. Шчасце ўсміхнецца да самотных Казярогаў і атрымаеш «доказ кахання» з неспадзяванага боку. Чакай дома радасных падзей і ўрачыстасцей. 24-26.09. пазбягай «правізорак» і часовых развязак. Рабі цяпер большыя пакупкі. На балючае горла бяры напар з шалфею.
**(21.01. — 19.02.)** Будзеш моцны і трывалы, дасі рады з праблемамі. Усё будзе ісці да лепшага. Хаця 29-30.09., калі ты падманваў у пачуццях, могуць цябе злавіць на мане! А найбольш ашукваў ты сам сябе! Калі хочаш адмяніць інтэр’ер хаты, можа быць крыху надта мадэрна для радні. На працы магчымая раптоўная змена планаў і будзеш прымушаны рабіць на некалькіх франтах. Можа прытрапіцца аварыя. Найбольш паспяховыя Вадалеі з III дэкады. 24-26.09. твае жарты хтосьці можа прыняць усур’ёз, магчымае вострае непаразуменне.
**(20.02. — 21.03.)** Павінна быць удачліва, без асаблівага высілку дасі сабе рады. Будзеш добры, шчыры, ахвотны да дапамогі. Закончыш цяжкую тэму ў пары. Не будзь лішне апякунскім бацькам. Многа працы, але можаш разлічваць на супрацоўнікаў і нават шэфа. Можаш нараканць на здароўе, калі маеш праблемы з крывёй, з ціскам.

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# Ксёндз Ежы Папялушка — чалавек свабоды

Паходзіў з простай сям'і, быў пранікнуты ўсходняй дабрынёй і зычлівасцю. Ён вырас у свеце, у якім мяшаліся ўплывы каталіцызму, праваслаўя, ісламу. Гэта быў кангламерат, у якім да вайны былі габрэі. У пэўны момант той хлопец з невялікай падляшскай вёскі стаў чалавекам, які апынуўся ў цэнтры духоўнага, палітычнага і культурнага жыцця Варшавы. Ксёндз Ежы Папялушка па сёння з'яўляецца феноменам у маштабе Еўропы і свету.

17 верасня, У 70. гадавіну з дня нараджэння кс. Папялушкі, у Будапешце быў адкрыты памятнік блаславёнага. На ім знайшоўся надпіс на польскай і венгерскай мовах „Zło dobrem zwyciężaj". На ўрачыстым адкрыцці помніка быў прысутны між іншым амбасадар РП у Венгрыі Ежы Снопэк.

9-10 верасня ў Сухаволі адзначылі 70. гадавіну з дня нараджэння кс. Ежы Папялушкі. Першая частка ўрачыстасці прайшла на плошчы перад помнікам блаславёнаму. Прысутнічалі жыхары Сухаволі, прадстаўнікі польскага ўрада, сям'я і блізкія ксяндза. Міністр унутраных спраў і адміністрацыі Марыюш Блашчак падкрэсліў, што ксёндз Ежы з'яўляецца адным са стваральнікаў незалежнай Польшчы.

Пасланне ксяндза Ежы Папялушкі было пасланнем, якое асвятляла нас усіх у час камунізму. Спадар прэм'ер Качынскі ў сваім лісце да ўдзельнікаў гэтай урачыстасці паставіў такі тэзіс, што калі б не блаславёны ксёндз Ежы, дык пэўна «Салідарнасць» не пратрымалася б. Дзякуючы паставе ксяндза Ежы «Салідарнасць» вытрымала і перамагла.

Урачыстасці праходзілі пад патранатам прэзідэнта Польшчы Анджэя Дуды. Прэзідэнт пісьмова звярнуўся да ўдзельнікаў святкаванняў, пішучы, што ў Сухаволі і Акопах усё пачалося, «за што кс. Ежы выў цэнены, і зараз шанаваны» і было «крыніцай яго прызвання і шляхам да святасці».

У лісце, — зачытаным генеральным дырэктарам Канцылярыі Прэзідэнта Гражынай Ігначак-Бандых, — Анджэй Дуда пісаў, што кс. Папялушка быў для палякаў «добрым пастырам і духоўным кіраўніком у барацьбе супраць камунізму і сёння мы знаходзімся ў свабоднай Польшчы, якая мае вялікага заступніка і вельмі важны аўтарытэт, які даў узор як паводзіць сябе ў грамадскім, прафесійным і прыватным жыцці».

Лідар Права і справядлівасці Яраслаў Качынскі ў сваім пісьме адзначыў: «Цяжка, з упэўненасцю казаць пра гэта, што не адбылося, але я б рызыкнуў сказаць, што без ксяндза Ежы «Салідарнасць» магла б не пратрымацца». Яраслаў Качынскі таксама згадаў бацькоў блаславёнага: «Марыянна і Уладзіслаў сфармавалі яго духоўна ў веры і патрыятызме».

Лідар ПіС таксама нагадаў, што прэзідэнт Лех Качынскі пасмяротна прысвоіў кс. Папялушку ордэн Белага Арла, а Марыянну Папялушку ўзнагародзіў Камандорскім Крыжам з зоркай.

Кс. Ежы Папялушка, нягледзячы на капланскую паслугу ў Варшаве, стараўся наведваць родную вёску Акопы. Для блізкіх запамятаўся як сціплы і зычлівы ксёндз і сусед.

— Наша мама такая была, што хоць бы снег, хоць бы мароз, хоць бы дождж, а трэба ісці ў касцёл, — сказаў Язэп Папялушка, брат блаславёнага. — Нашым абавязкам было кожную нядзелю быць у касцёле... Вельмі ўзрушвае, што так шмат людзей памятае пра такога сціплага святара.

— Гаварыў, так як мы тут гаворым. Прыязджаў да нас,— успамінае кс. Ежага *другі* брат, Станіслаў Папялушка.— Пра бедных людзей думаў. Аднойчы прыйшоў да нас і ўбачыў у мяне падраныя чаравікі. Зняў свае і аддаў мне, а сабе ўзяў нейкія горшыя. Ведалі яго такім, якім быў насамрэч, праўдзівы ён быў.

### УРАЧЫСТАСЦІ Ў АКОПАХ

У нядзелю (10 верасня) у Акопах, роднай вёсцы капелана «Салідарнасці», прайшла ўрачыстая літургія, на якой пропаведзь сказаў кс. прафесар Ежы Левандоўскі. Святар падкрэсліў, што за кс. Ежым цягнулі натоўпы, аднак паміраў адзін.

— Як магло такое стацца, што сёння ва ўсіх касцёлах свету збіраюцца біскупы, святары, каб аддаць пашану святому пакутніку, — сказаў у час пропаведзі кс. Ежы Левандоўскі.— Тады хтосьці абвінаваціў, падмануў, змахляваў. Да гэтага дня ніхто не сказаў: «Прабачце за Юрку Папялушку!».

Сухавольская зямля ганарыцца тым, што тут менавіта нарадзіўся, вырас, хадзіў у школу і атрымаў святарскае прызванне кс. Ежы. Падчас імшы ў Акопах звярнуў на гэта ўвагу Эдвард Азароўскі — арцыбіскуп-сеніёр Беластоцкай архідыяцэзіі. Ён таксама ўспомніў бацькоў кс. Ежы.



**Ежы Папялушка** (першае імя дадзенае на хрысце было Альфонс, якое памяняў на пачатку сямідзесятых гадоў) нарадзіўся ў вёсцы Акопы, што ў гміне Сухаволя. Блаславёны ксёндз Папялушка быў замардаваны ў 1984 годзе камуністычнай службай бяспекі. Тады яму было 37 гадоў. Ксёндз Ежы Папялушка спачывае пры касцёле св. Станіслава Косткі ў Варшаве. 6 чэрвеня 2010 года Ежы Папялушку далучылі да ліку блаславёных пакутнікаў. 21 кастрычніка ў Драматычным тэатры імя. Аляксандра Венгеркі ў Беластоку адбудзецца прэм'ера спектаклю „Папялушка" прымеркаванага да 33 гадавіны з дня смерці кс. Ежы. Кастынг на галоўную ролю кс. Ежы перамог вядомы акцёр, Якуб Лясота.




http://www.szkolawaglikowice.szkolna.net

— Мы памятаем пакорлівага бацьку і маці так мужную, што пасля смерці яе сына не здалася, але надалей верыла ў заклік сына. Гэта была простая, але вельмі цёплая жанчына, якой шчокі былі як скарынка хлеба, а хуста, як кошык кветак, якія растуць тут на палях і лугах, — сказаў арцыбіскуп Эдвард Азароўскі.

### СВОЙ СВЯТЫ

Кс. Ежы Папялушку асабліва праслаўлі імшы за Радзіму, якія з самага пачатку ваеннага становішча збіралі ў апошнюю нядзелю кожнага месяца тысячы людзей, таксама з-за меж сталіцы. Можна сказаць, што ўдзельнічала ў іх цэлая Польшча: прадстаўнікі ўсіх сацыяльных праслоек і ўсіх пакаленняў. Удзельнічалі ў іх таксама прадстаўнікі іншых канфесій і няверуючыя. Дзякуючы кс. Ежы, паўстаў новы жанр чалавечай супольнасці, дзе рэлігія была вызначальнікам маральна-этычных каштоўнасцей у сітуацыі крайняга недаверу і дыскрэдытацыі афіцыйнай сістэмай тых жа каштоўнасцей.

Адных уражвала яго сціпласць і прастадушнасць, другіх — адвага і настойлівасць. Блаславёны Ежы Папялушка з невялікай вёсачкі Акопы, што на Падляшшы, сваёй шчырасцю веры запаланяе нават тых, якія далёкія ад Касцёла. Сваіх землякоў уражваў сціпласцю і дабрынёй. Для іх ён быў заўсёды сынам Марыянны і Уладзіслава. Народжаны 14 верасня 1947 года кс. Ежы сваёй паставай па сёння нам усім дае ўрок аўтэнтычнасці і натуральнасці, сугучнасці сваіх поглядаў з будзённым жыццём.

❖Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

*Wiktor Woroszylski*

### Mowa

Ksiądz Jerzy
dzieckiem
mówił tylko po prostemu
to znaczy po białorusku
szeleszczącą mową
tych pól zagajników pastwisk

Dopiero
później
polszczyzna
ogarnęła go silnym ramieniem
weszła w niego
przemówiła do Boga i ludzi

Może teraz
kiedy stanął przed tronem
znów odezwał się w zmieszaniu
mową dzieciństwa:
Baćka
prabacz im kali łaska

I Pan usłyszał
te proste słowa



ISSN 0546-1960